*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 8 (220) | 22 лютага 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

**РЫГОР БАРАДУЛІН: «НЕ ЎЯЎЛЯЮ САБЕ ЖЫЦЦЯ ПАЭТА АСОБНА АД НАРОДА». Стар. 4.**

**ПЕРШЫЯ ВОДГУКІ НА АНКЕТУ «НС». Стар. 7.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У ГАЗЕТАХ З'ЯВІЎСЯ ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ДРУКУ І ІНШЫХ СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ».** У артыкуле 6 «Мова сродкаў масавай інфармацыі» гаворыцца: «Перыядычныя друкаваныя выданні і іншыя сродкі масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць сваю дзейнасць на дзяржаўнай мове, а таксама на іншых мовах у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і дзеючым заканадаўствам».

○ ***У ЧАС ВІЗІТУ Ў ЛІТВУ ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПІЎ У СЕЙМЕ.*** *На беларускай мове. І далей бы так і на Беларусі!*

○ **У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ,** прысвечаная 480-м угодкам выдатнага дзяржаўнага дзеяча Беларусі князя Мікалая Радзівіла Чорнага. Беларускія грамадскія арганізацыі звярнуліся з прапановай да ўрада аб'явіць 1995 г. годам Радзівіла Чорнага. Мяркуецца закласці помнікі князю ў Нясвіжы і Менску.

○ ***9 ЛЮТАГА ВЯЛІКАЯ РАДА ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ПРЫНЯЛА РАШЭННЕ*** *правесці нечарговы з'езд беларусаў свету 20 лютага ў Менску. Галоўнае пытанне з'езда — змены ў статуце згуртавання, выкліканыя прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях», і неабходнасць перарэгістрацыі арганізацыі.*

○ **У МЕНСКУ ЗАКОНЧЫЛА РАБОТУ МІСІЯ САВЕТА ЕЎРОПЫ.** Яе вельмі занепакоілі экзатычныя «белыя плямы» на старонках беларускіх газет. Высветліць прычыну іх з'яўлення члены дэлегацыі так і не змаглі, заўважыўшы, што на хуткасць далучэння Беларусі да СЕ гэты факт не паўплывае. Галоўнай умовай для прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы з'яўляецца правядзенне дэмакратычных выбараў у парламент.

○ ***ПРЫТОК БЕЖАНЦАЎ З ЧАЧНІ Ў БЕЛАРУСЬ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА.*** *На сённяшнія дні ў нашай краіне іх зарэгістравана 68 чалавек.*

○ **БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ ВАЙСКОЎЦАЎ ПРАПАНАВАЛА МІНІСТРУ АБАРОНЫ АНАТОЛЮ КАСТЭНКУ** для хутчэйшага авалодання нашымі вайскоўцамі дзяржаўнай мовай выкарыстоўваць беларуска-рускі слоўнік вайсковых тэрмінаў. Анатоль Кастэнка не адмовіўся ад прапановы і сказаў: «Вашым напрацоўкам я буду толькі рады і з прыемнасцю іх прыму. Прашу не думаць пра мяне, што я рускі і таму я супраць беларускай мовы. Наадварот, уся мая дакументацыя ўжо вядзецца па-беларуску і да беларусізацыі войска я буду заўсёды імкнуцца. Беларускую мову я ведаю, але пакуль што не адважваюся гаварыць на ёй».

○ ***СПЕЦЫЯЛІСТЫ ЦЭНТРА ДАСЛЕДАВАННЯЎ БУДУЧАГА ПРЫ ВЫДАВЕЦКА-ПАЛІГРАФІЧНАЙ КАМПАНІІ «ЭРЫДАН» ПРАВЯЛІ АПЫТАННЕ СЯРОД ЖЫХАРОЎ НАШАЙ КРАІНЫ.*** *На пытанне, каму вы давяраеце больш за ўсё, 57,5% апытаных адказалі, што нікому, толькі 18,3% вераць Прэзідэнту. Праўда, Вярхоўнаму Савету вераць яшчэ менш, а мясцовым уладам і ўраду — 2,2 працэнта апытаных.*

# Бараніць роднае слова — значыць змагацца за нашу дзяржаўнасць

**(Акцыі з нагоды 5-х угодкаў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам краіны Закона аб мовах)**

«Наша слова» ўжо інфармавала аб некаторых захадах рэгіянальных арганізацый ТБМ імя Ф.Скарыны, прымеркаваных да пятых угодкаў прыняцця Закона аб мовах. Дададзім, што 26 студзеня ў рэспубліканскім Доме настаўніка прайшло спецыяльнае пасяджэнне сталічнага грамадска-культурнага клуба «Спадчына», наладжанае сумесна з Менскай гарадской Радай ТБМ. На апошнім, дарэчы, прагучаў вельмі змястоўны і цікавы даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча, дзе дакладна і падрабязна ўзнаўляліся самыя розныя акалічнасці прыняцця Вярхоўным Саветам згаданага заканадаўчага акта (асноўныя палажэнні аўтар напярэдадні надрукаваў у «Настаўніцкай газеце»).

Галоўныя ж дзеі ў гонар гэтай важнай падзеі ў нацыянальнай гісторыі беларусаў адбыліся 31 студзеня ў сталічным Доме літаратара. Яны выклікалі прыкметны грамадскі рэзананс, шырока асвятляліся рэспубліканскімі сродкамі масавай інфармацыі. Справаздачы змясцілі нават газеты, далёкія ад ідэалаў Адраджэння, а Беларускае тэлебачанне больш за гадзіну вяло прамую трансляцыю з вялікай тэатральнай залы. Тады ж, у самы «глядзельны» час, пасля праграмы «Навіны» тэлестудыя «Палітыка» паказала востры дыялог у эфіры, дзе выступалі першы намеснік старшыні ТБМ, народны дэпутат Яўген Цумараў і старшыня менскага таварыства рускай культуры «Русь» Генадзь Уласаў. Зусім нядаўна Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны такой пільнай увагай журналістаў не карысталася. Але ж вернемся ў Дом літаратара...

Спачатку ў канферэнц-зале адбыўся «круглы стол», куды былі запрошаны кіраўнікі цэнтральных установ і ведамстваў, грамадскіх арганізацый і рухаў, рэктары прэстыжных ВНУ, сябры Рэспубліканскай Рады ТБМ, актывісты Таварыства з розных рэгіёнаў нашай краіны, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. Заўважым, што яшчэ ніводная з падобных сустрэч раней не збірала столькі зацікаўленых асоб: даволі прасторнае памяшканне ледзь умясціла жадаючых.

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня ТБМ Ніл Гілевіч у кароткім уступным слове павіншаваў прысутных, усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь з пяцігоддзем прыняцця вышэйшым органам дзяржаўнай улады Закона аб мовах. Ён падкрэсліў, што асноўная задача «круглага стала» — дакладна высветліць сітуацыю выканання згаданага закона і ў адпаведнасці з гэтым вызначыць канкрэтныя меры, накіраваныя на поўнае і паслядоўнае ўвасабленне ў жыццё канстытуцыйных і заканадаўчых нормаў, якія надаюць роднай мове статус адзінай дзяржаўнай у нашай краіне. Прамоўца адзначыў, што пяць гадоў назад прыняцце закона было выклікана аб'ектыўнай непазбежнасцю, самім ходам гістарычнага працэсу. Прычым, вастрыню трагічнай сітуацыі з родным словам усвядоміла нават тагачаснае кіраўніцтва БССР, зразумеўшы, што для выратавання нацыянальнай мовы патрэбны экстраныя мерапрыемствы, распрацоўка спецыяльнай дзяржаўнай моўнай палітыкі. Хоць гэты закон — вельмі памяркоўны, але зараз відавочна, заўважыў Н.Гілевіч, што дагэтуль выконваецца ён толькі часткова, недастаткова, аб чым сведчыць, дарэчы, і інфармацыя, сабраная Камісіяй па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета ад міністэрстваў і ведамстваў. Прагучала прапанова да прысутных падзяліцца сваімі поглядамі і меркаваннямі на шляхі вырашэння гэтай надзвычай наспелай, набалелай сёння грамадскай праблемы, ад якой непасрэдна залежыць далейшы лёс беларускай нацыянальнай культуры.

У ацэнцы цяперашняй сітуацыі, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусь у ходзе рэалізацыі дзеючага моўнага заканадаўства, і аб меркаванні шляхоў яго паўнакроўнага ажыццяўлення ўзяло ўдзел 17 чалавек.

Намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Зміцер Санько нагадаў, што ў канцы мінулага года быў створаны Арганізацыйны грамадскі камітэт у абарону беларускай мовы, адным з ініцыятараў і сузаснавальнікам якога з'явілася ТБМ. На працягу студзеня камітэт ужо правёў шэраг значных публічных акцый (пікетаванне Белдзяржуніверсітэта і Міністэрства адукацыі, маніфестацыі перад Менскім гарвыканкамам і Домам урада, распрацоўка зваротаў да грамадзян у абарону роднага слова, распаўсюджванне іх праз сродкі масавай інфармацыі і інш.). Прамоўца таксама паведаміў, што прадстаўнікі згаданага камітэта мелі сустрэчу з міністрам адукацыі і навукі В.Стражавым, на якой патрабавалі адмовіцца ад прынятага ім рашэння ўвесці з 1 верасня г.г. ва ўсіх першых класах беларускіх школ і беларускамоўных класах рускіх школ абавязковае вывучэнне рускай мовы (праграма пад умоўнай назвай «Ручеёк»), бо згубніцкія вынікі для псіхічнага здароўя дзяцей падобных небяспечных эксперыментаў даўно адназначна засведчаны класічнай педагагічнай навукай. Другім патрабаваннем камітэта стала неадкладнае ператварэнне (ужо ў бягучым годзе) БДУ ў нацыянальны універсітэт, г.зн. выкладанне там усіх навучальных прадметаў і дысцыплін на дзяржаўнай мове нашай краіны. На жаль, закончыў Зм.Санько, разумення ці хоць бы якога жадання ісці нам насустрач ад міністра прадстаўнікі камітэта не дачакаліся. Такая пазіцыя не можа не абураць.

Першы намеснік міністра адукацыі і навукі Генадзь Пятроўскі быў вымушаны канстатаваць, што міністэрствам, сапраўды, зроблена далёка не ўсё дзеля шырокага і мэтанакіраванага ўвасаблення патрабаванняў Закона аб мовах. Але гэта ён паспрабаваў вытлумачыць недасканаласцю існуючага моўнага заканадаўства, пэўныя артыкулы якога дазваляюць трактаваць і разумець іх па-рознаму. І ўсё ж, на думку Г.Пятроўскага, менавіта ва ўстановах і арганізацыях сістэмы міністэрстваў адукацыі, культуры і друку Закон аб мовах зараз рэалізуецца найбольш паспяхова і паслядоўна. Так, сёння ў сярэдніх школах краіны звыш 60 працэнтаў вучняў ужо валодае ведамі на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь, а 70,2 працэнта першакласнікаў вучацца па-беларуску, курсы ж гісторыі Беларусі нават ва ўсіх рускіх школах, дзе, дарэчы, займаецца толькі каля 5 працэнтаў вучняў, чытаюцца па-беларуску. Прамоўца лічыць, што дадзеныя акалічнасці ствараюць спрыяльную глебу для грунтоўнага і цвёрдага авалодання роднай мовай нашай моладдзю.

*(Заканчэнне на с.2.)*

# Усім арганізацыям ТБМ

У сувязі з пятымі ўгодкамі з дня прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб мовах у перыядычным друку («Народная газета», «Звязда», «Настаўніцкая газета» і інш.) надрукаваны матэрыялы, якія прысвечаны гэтай даце. Сярод іх: артыкул доктара гістарычных навук Леаніда Лыча «Здаровы розум перамог», як прымалі Закон аб мовах («Настаўніцкая газета», 25 студзеня 1995 г.), пісьменніка Сяргея Законнікава «Беларускі нацыяналізм. Ці ёсць ён?» («Народная газета», 25 студзеня 1995 г.), Пятра Краўчанкі «Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчыма без любові да сваёй мовы» («Народная газета», 1 лютага 1995 г.) і інш. Можна выкарыстаць таксама зборнік публіцыстыкі Ніла Гілевіча «Як не спыніць узыходу Сонца» (выдадзены ТБМ імя Ф.Скарыны ў 1993 г.), яго кнігу публіцыстыкі «Выбар» (выд-ва «Беларусь», 1993 г.), газету «Наша слова», дзе сістэматычна друкуюцца адпаведныя матэрыялы, і інш.

Лічым мэтазгодным правесці сумесна з органамі адукацыі і культуры, іншымі арганізацыямі ў школах, навучальных установах, у калектывах устаноў культуры ўрокі і гутаркі на тэму «Мова — душа народа». На нашу думку, такая акцыя будзе спрыяць росту нацыянальнай свядомасці нашых грамадзян.

**Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# Бараніць роднае слова — значыць змагацца за нашу дзяржаўнасць

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

Далей Г.Пятроўскі падкрэсліў, што даволі сур'ёзныя складанасці працэс беларусізацыі навучання зараз сустракае толькі, бадай, у вышэйшай школе, якая раней уваходзіла ў агульнасаюзную сістэму ВНУ і цэлымі дзесяцігоддзямі заставалася скрозь рускамоўнай. Сучасныя цяжкасці для дзяржаўнай мовы ў нашых ВНУ вынікаюць таксама з таго, што значная частка высокакваліфікаваных выкладчыкаў там — людзі, якія прыехалі працаваць на Беларусь з іншых рэгіёнаў былога СССР. Адмоўную ролю тут працягвае адыгрываць і тое, што навуковая беларускамоўная тэрміналогія па многіх галінах ведаў дагэтуль з'яўляецца недасканалай ці ўвогуле нераспрацаванай. Але прамоўца, спаслаўшыся на даручэнне свайго міністра, запэўніў аўдыторыю: не зважаючы на пералічанае, **ужо сёлета з першага верасня значная частка студэнтаў-першакурснікаў нашых ВНУ пачне заняткі на дзяржаўнай мове.**

Тым не менш, выступленне першага намесніка міністра адукацыі большасць прысутных сустрэла расчаравана, нават з адкрытым недаверам. Агульны настрой выказаў старшыня «круглага стала» Ніл Гілевіч, які зрабіў наступную рэпліку. Інфармацыя, сабраная з месцаў Камісіяй па адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета, сведчыць: лічбы, якія тут прагучалі, — падагнаныя, яны толькі звонку выглядаюць прыгожа і пераканаўча. На самай жа справе падобная статыстыка, напрыклад, адносіць да катэгорыі «беларускіх» нават тыя школы, дзе маюцца толькі беларускамоўныя першыя класы. А старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар Мікола Савіцкі рубам паставіў сп.Г.Пятроўскаму пытанне: «Калі ласка, скажыце, дзе зараз мае дзеці могуць атрымаць вышэйшую адукацыю пабеларуску?», якое, да слова, так і засталося без адказу.

Удакладніла сітуацыю наконт адвольнай эквілібрыстыкі з падобнай, безумоўна, заганнай статыстыкай пенсіянерка, былы старшы навуковы супрацоўнік НДІ педагогікі, аўтар некалькіх школьных падручнікаў Рагнеда Аляхновіч. Спасылаючыся на прыклад асобных менскіх школ, якія ў справаздачах афіцыйна лічацца беларускімі, яна ўзрушана паведаміла, што ў згаданых школах па-ранейшаму няма, на жаль, самага галоўнага — беларускага духу, не гаворачы ўжо пра тое, што шэраг прадметаў, як і ўчора, выкладаюцца толькі па-руску, што ўся методыка навучання і выхавання там зусім не спрые пашырэнню беларускасці ў дзятвы. Сп. Р.Аляхновіч таксама звярнула ўвагу на тое, што ў бібліятэках большасці менскіх школ не хапае твораў беларускай мастацкай літаратуры, а новы, выпуску 1994 года, падручнік роднай літаратуры ўвогуле не вытрымлівае крытыкі, там няма нават творчых партрэтаў нацыянальных майстроў мастацкага слова.

Рэктар Беларускага педагагічнага універсітэта (БПУ) Леанід Ціханаў, аналізуючы істотнае пашырэнне беларусізацыі ў сваёй ВНУ, падкрэсліў, што цяжкасці, вядома, ёсць і ў іх, але ж любыя перашкоды ніколі не ўзнікаюць толькі там, дзе ніхто ўвогуле нічога не робіць. Літаральна па ўсіх настаўніцкіх спецыяльнасцях БПУ зараз рыхтуе спецыялістаў на дзяржаўнай мове нашай краіны. Таксама на беларускую мову навучання цяпер пераведзены і два менскія педагагічныя вучылішчы, якім педуніверсітэт традыцыйна аказвае практычную і метадычную дапамогу.

Дэталёва асвятліў становішча спраў з выкананнем моўнага заканадаўства ў падведамасных свайму міністэрству структурах, установах і арганізацыях начальнік упраўлення Міністэрства культуры і друку Уладзімір Ламека. Закранутая праблема апошнім часам каля дзесяці разоў разглядалася на пасяджэннях калегіі міністэрства. Моцным штуршком для ўзмацнення прапаганды роднага слова стала святкаванне Дня беларускага пісьменства, культуры і друку. Спадзяёмся, што свята неўзабаве зробіцца традыцыйным і агульнанародным у Рэспубліцы Беларусь.

Далей У.Ламека прывёў некаторыя статыстычныя звесткі, якія характарызуюць ход выканання Закона аб мовах у сістэме арганізацый і ўстаноў Міністэрства культуры і друку. Так, было падкрэслена, што ў мінулым годзе ў кнігавыдавецкай справе рэспублікі галоўная ўвага надавалася выпуску беларускамоўнай літаратуры (выдадзена 795 назваў кніг і брашур агульным накладам звыш 17 млн. паасобнікаў), выкананы практычна ўсе заказы на друкаванне беларускамоўных падручнікаў для агульнаадукацыйных школ і інш. У выступленні прагучала і тое, што сярод перыядычных выданняў краіны па-ранейшаму значна пераважаюць рускамоўныя газеты і часопісы (на 1 студзеня 1995 г. зарэгістравана 721 перыядычнае выданне, з якіх толькі 146 выходзіць на дзяржаўнай мове). На гэту сітуацыю міністэрства фактычна не мае магчымасці ўплываць, бо заснавальнікамі рускамоўнай перыёдыкі ў большасці выпадкаў з'яўляюцца недзяржаўныя структуры.

Міністр працы Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноў адзначыў, што ў яго ведамстве беларусізацыя пакуль ідзе цяжка, фактычна зроблены толькі першыя крокі па пераходу на беларускамоўнае справаводства: набыты неабходныя слоўнікі, даведнікі, распрацаваны адпаведныя інструкцыі. Але станоўчыя зрухі тут, бясспрэчна, будуць, бо ў кіраўніцтва міністэрства ёсць жаданне істотна пашырыць ужыванне роднага слова ў сферы сваёй службовай дзейнасці.

Сябра Сакратырыята ТБМ імя Ф.Скарыны Валеры Костка (г.Маладзечна) звярнуў увагу ўдзельнікаў пасяджэння, што Таварыству найперш неабходна перад вышэйшымі службовымі асобамі паставіць пытанне: ёсць у нашай дзяржавы курс на нацыянальнае Адраджэнне ці не? Прамоўца лічыць таксама, што Прэзідэнт абавязаны карыстацца дзяржаўнай мовай сваёй краіны.

Старшыня Віцебскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Валянцін Арлоў спыніўся на тым, што універсітэты і інстытуты, як і ўчора, застаюцца небеларускімі навучальнымі ўстановамі. Усе арганізацыі Таварыства павінны на месцах выконваць функцыю грамадскага кантралёра за ажыццяўленнем моўнага заканадаўства. На жаль, адзначыў ён, у Віцебску працягваецца адкрыты сабатаж патрабаванняў Закона аб мовах з боку значнай часткі чыноўнікаў. В.Арлоў лічыць мэтазгодным **неадкладна правесці міжнародную канферэнцыю «Абарона самабытных моў у працэсе аднаўлення дзяржаўнай самастойнасці»**, каб выкарыстаць у сябе вопыт, ужо назапашаны іншымі краінамі.

Намеснік старшыні БНФ прафесар Юры Хадыка засяродзіўся на тым, што ў бліжэйшыя пяць гадоў трэба абавязкова забяспечыць, каб беларускае слова трывала ўвайшло ў дзяржаўныя ўстановы. Другая найважнейшая задача — зрабіць беларускую мову рабочай мовай усёй сістэмы адукацыі. На думку прамоўцы, сучасная беларуская мова патрабуе рэфармавання, бо носіць на сабе адбітак савецкага правапісу, штучна ўведзенага ў 30-х гадах. Прафесар, характарызуючы стан роднага слова ў ВНУ, падкрэсліў, што супраціўлення пашырэнню беларускасці з боку студэнтаў зараз не назіраецца, але супраць гэтага працэсу актыўна выступаюць старыя выкладчыцкія кадры, якія ўсяляк намагаюцца захаваць усё так, як ёсць.

Старшыня Гродзенскай Рады ТБМ прафесар Аляксей Пяткевіч паведаміў аб шматлікіх фактах ігнаравання дзеючага моўнага заканадаўства ў вобласці. Расказаў, у прыватнасці, аб тым, што маюцца выпадкі, калі ў беларускамоўных класах школ Гродзеншчыны дзяцей нават абражаюць за іх беларускасць.

Дацэнт Політэхнічнай акадэміі Мікола Анцыповіч падкрэсліў, што невыкананне Закона аб мовах сістэмай адукацыі ў першую чаргу тлумачыцца тым, што кіраўнікі школ, РАНА, ГарАНА нярэдка карыстаюцца пры гэтым падтрымкай свайго міністэрства, на калегіях якога ніводнага разу нават не разглядаліся пытанні, непасрэдна звязаныя з рэалізацыяй моўнага заканадаўства. На думку М.Анцыповіча, міністэрства апошнім часам нават праводзіць палітыку, накіраваную на згортванне беларусізацыі нашых навучальных устаноў (рашэнне ўвесці з 1 верасня г.г. абавязковае вывучэнне рускай мовы для першакласнікаў беларускамоўных класаў і інш.).

Выклікалі ў аўдыторыі асаблівую цікавасць наступныя прапановы:

старшыні Згуртавання беларускай шляхты, прафесара Анатоля Грыцкевіча — лічыць неабходным значна павялічыць выпуск пабеларуску лепшых твораў сусветнай літаратуры для дзяцей і моладзі, працягваць працу па стварэнні новых падручнікаў для школ і ВНУ. Гэтая справа, адзначыў прафесар А.Грыцкевіч, павінна мець прыярытэтны накірунак, бо ад яе паспяховага ўвасаблення залежыць вельмі многае.

Старшыня бацькоўскага камітэта дзяцей беларускамоўных класаў Алесь Шамак востра крытыкаваў пазіцыю кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і навукі, якое фактычна, на думку прамоўцы, самаўхіляецца ад рэалізацыі Закона аб мовах. Ён праінфармаваў прысутных аб апошніх публічных акцыях у Менску Каардынацыйнага камітэта ў абарону беларускай мовы (створаны пры ўдзеле ТБМ імя Ф.Скарыны), заклікаў прадстаўнікоў з месц эфектыўна каардынаваць агульныя дзеянні супраць цяперашняй антыбеларускай кампаніі, якая прыкметна актывізавалася ў канцы мінулага—пачатку гэтага года.

Старшыня Згуртавання беларусаў свету Ганна Сурмач адзначыла, што яе арганізацыя, відаць, належыць да тых, хто найбольш востра адчувае жахлівы стан роднага слова на сваёй гістарычнай радзіме. Калі да нас, падкрэсліла яна, прыязджаюць на семінары прадстаўнікі беларускай дыяспары — выкладчыкі роднай мовы, то мы нават у сталіцы не можам знайсці дзеля практычных заняткаў ніводнай беларускай школы, дзе б увесь навучальны і выхаваўчы працэс ажыццяўляўся на дзяржаўнай мове. Г.Сурмач лічыць, што моўная сітуацыя на Беларусі ў першую чаргу тлумачыцца палітыкай. Таму, змагаючыся сёння за роднае слова, мы вядзём змаганне за сваю дзяржаўнасць. Яна выказалася за ўключэнне ў дакумент гэтага «круглага стала» патрабавання забароны выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі дзеля прапаганды супраць нашай дзяржаўнасці.

Старшыня ТБМ Ніл Гілевіч коратка падсумаваў вынікі абмеркавання праблемы, прапанаваў прысутным зрабіць заўвагі, дапаўненні і ўдакладненні ў праект тэксту выніковай заявы, які быў загадзя распаўсюджаны ў зале. Канчатковы варыянт заявы даручаецца (з улікам зробленых заўваг) падрыхтаваць Сакратарыяту Таварыства.

У пасяджэнні «круглага стала» брала ўдзел большасць сяброў ТБМ, якія правамоцна вырашылі захаваць ранейшыя нормы прадстаўніцтва на чарговы з'езд Таварыства: два дэлегаты ад кожнай гарадской (раённай) арганізацыі і адзін прадстаўнік ад зарэгістраванай калектыўнай сябрыны.

Далейшыя дзеі адбываліся ў вялікай зале Дома літаратара. Аднагалосна была прынята Заява. Працягвалася зацікаўленая размова аб роднай мове, дадзенай беларусам Богам. Гасцям прапанавалася разнастайная канцэртная праграма, аснову якой складала нацыянальная класіка. У вялікай зале была выказана падзяка за актыўную прапаганду роднай мовы, садзеянне і дапамогу ў рабоце Таварыства беларускай мовы і ўручаны каштоўныя падарункі (Энцыклапедыя «Беларуская мова»): Астрэйку Сяргею Васільевічу — вадзіцелю тралейбуса дэпо № 3, Мішкевічу Івану Анатольевічу — вадзіцелю тралейбуса дэпо № 2, Босаму Генадзю Анатольевічу — вадзіцелю тралейбуса дэпо № 3, Кляўцэвіч Валянціне Паўлаўне — вадзіцелю трамвая трамвайнага дэпо, Бялькевічу Аркадзю Адамавічу — дырэктару Менскага педагагічнага каледжа, Юрасю Авяр'янаву — артысту Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы, Алегу Атаманаву — барду, фальклорнаму гурту «Дзянніца» (кіраўнік І.Міронава), Шыйку Генадзю Пятровічу — загадчыку тэрапеўтычнага аддзялення 32-й гарадской паліклінікі, Людчыку Аляксандру Аляксандравічу — урачу-артапеду, загадчыку аддзялення Беларускай асацыяцыі рэабілітацыі інвалідаў («БелАРЫ»), фірме «Дайнова» (прэзідэнт А.П.Палюховіч), Крэсіку Міралюбу Уладзіміравічу — дырэктару Менскага холадакамбіната № 1, Содалю Уладзіміру Ільічу — рэдактару тэлечасопіса «Роднае слова», Кастусю Гарашчанку — барду; Валерыі Куставай — юнай паэтцы — бібліятэчка кніг Н.Гілевіча з аўтографам аўтара.

**М.ВІЖ.**

## ЗАЯВА

### ўдзельнікаў «круглага стала» з нагоды 5-й гадавіны прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь

У выніку аналізу стану ажыццяўлення палажэнняў арт.17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона аб мовах, праведзенага за «круглым сталом», Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны пры ўдзеле адказных работнікаў шэрага органаў дзяржаўнага кіравання, актывістаў грамадска-культурных арганізацый Беларусі, канстатуюць наступнае:

нягледзячы на тое, што Закон уступіў у сілу яшчэ 1 верасня 1990 г., шматлікія палажэнні згаданага Закона не выкананы ў маштабе краіны ў выніку яго ігнаравання многімі адказнымі работнікамі дзяржаўных і недзяржаўных структур. Адзначанае датычыцца арт. 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35, якія павінны былі цалкам выкананы больш як год назад, а таксама арт. 4, 7, 8—12, 10, 13, 14, 23, на ажыццяўленне якіх адводзіўся тэрмін ад 3 да 5 гадоў. Значная частка дзяржаўных служачых нават не азнаёмлены са зместам Закона аб мовах, яны працягваюць спасылацца на нібыта ўстаноўлены для ажыццяўлення ўсіх яго палажэнняў тэрмін у 10 гадоў.

Асабліва ўзмацніліся тэндэнцыі да прававога нігілізму ў галіне моўна-культурнага заканадаўства пасля публічных выступленняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з крытыкай палажэнняў Закона аб мовах і антыканстытуцыйнымі заклікамі вярнуцца да так званага «двухмоўя» — за гэтым, як вядома, заўсёды было схавана імкненне канчаткова вывесці беларускую мову з грамадска-дзяржаўнага ўжытку ў краіне. Далёка не ў поўнай ступені выконваюць свае абавязкі па нагляду за ажыццяўленнем заканадаўства ў дачыненні да Закона аб мовах і органы пракуратуры рэспублікі.

У шэрагу сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і дзяржаўных, у недапушчальных для цывілізаванага грамадства формах аспрэчваецца права народа Беларусі на прыярытэтнае становішча беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у краіне, а разам і яго права на сваю ўласную нацыянальную дзяржаўную сімволіку і саму дзяржаўнасць.

Нярэдка пры садзейнічанні тых высокіх службовых асоб краіны, якія непрыхільна ставяцца да беларускай мовы і канстытуцыйнага ладу незалежнай Беларусі, а таксама пры падтрымцы замежных арганізацый, якія адмаўляюць народу Беларусі ў праве на дзяржаўнасць і на сваю мову ў рэспубліцы, працягваюць адкрыта дзейнічаць разнастайныя экстрэмісцка-антыбеларускія грамадскія ўтварэнні.

У выніку вышэй адзначанага грамадзянам краіны, незалежнай Рэспубліцы Беларусь наносяцца вялікія сацыяльна-палітычныя і маральныя страты, штучна стрымліваецца развіццё нацыянальнай культуры, пашырэнне ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы.

У гэтай сувязі вышэйшым органам улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, у шэрагу іншых неадкладных захадаў, накіраваных на выкананне канкрэтных палажэнняў Закона аб мовах, прапануецца ажыццявіць наступныя меры.

1. Вызначыць у органах дзяржаўнай улады і кіравання службовых асоб, адказных за ўсебаковае выкананне палажэнняў Закона аб мовах, іншых нарматыўных актаў, прынятых у краіне з мэтай пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы і моваў нацыянальных супольнасцей Беларусі і надзяліць іх неабходнымі паўнамоцтвамі дзеля выканання адпаведных службовых абавязкаў.

2. Звярнуцца да Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь з прапановай правесці калегію, на якой дэталёва абмеркаваць стан выканання Закона аб мовах і прыняць неабходныя рашэнні, якія здольны прадухіліць прававы нігілізм службовых асоб краіны розных рангаў у дачыненні да моўна-культурнага заканадаўства і якія забяспечвалі б яго тэрміновае і поўнае ажыццяўленне.

3. Увесці ў практыку дзейнасці органаў улады і кіравання краіны на час, адведзены на ажыццяўленне Закона аб мовах, справаздачнасць у межах кампетэнцыі адносна стану яго выканання перад вышэйстаячымі дзяржаўнымі структурамі, у тым ліку і адпаведнымі камісіямі выбарных органаў прадстаўнічай улады і самакіравання.

4. Звярнуцца да праваахоўных органаў краіны з просьбай прыняць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам вычарпальныя меры па недапушчэнню антыканстытуцыйнай, антызаконнай дзейнасці тых грамадскіх структур, якія, прыкрываючыся ілжывымі лозунгамі забеспячэння правоў той ці іншай нацыянальнай меншасці, сталі на шлях знішчэння беларускай дзяржаўнасці, яе атрыбутаў і абмежавання правоў беларускай мовы.

5. Звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі краіны з просьбай гранічна далікатна асвятляць пытанні, звязаныя з дачыненнямі нацыянальных супольнасцей Беларусі, узаемадзеяннем іх моў і культур, а таксама з павагай і з пачуццём належнага грамадзянскага абавязку перад Бацькаўшчынай адлюстроўваць працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы.

Прынята аднагалосна. 31 студзеня 1995 года, г.Менск.

# Ці замінае што Беларусі заняць «свой пачэсны пасад між народамі»?

*(Зноў пра Дзяржаўны Гімн)*

На сёння наша суверэнная краіна мае свой дзяржаўны Герб і Сцяг. Пакуль што нестае галоўнай Песні — Беларускага Гімна. І гэта не дзіўна, бо стварыць такую Песню нялёгка і няпроста: жыць жа ёй наканавана сама мала дзесяцігоддзі. Мяркую, не трэба тэкст новага Гімна прыстасоўваць пад менавіта сённяшнюю патрэбу дня, тым болей пад чыесьці асабістыя густы. Аўтары ж прадстаўленых на конкурс тэкстаў Песні чамусьці лічаць, што добрую яе палову трэба аддаць напамінку пра Бога ды словам клятвы «Жыве Беларусь!». Здаецца ж, беларусы ніколі не былі вернікамі-фанатыкамі. Так што з Богам трэба абыходзіцца па-боску ў цэрквах, а не весці яго самахоць у Гімн. Узнёсласць, урачыстасць вершу-Гімну павінна надаваць не колькасць слоў пра Бога ці заклікаў «Жыве Беларусь!» (пры ўсёй павазе да іх), а непасрэдны змест. Тэкст павінен быць змястоўны і лаканічны, мілагучны і разважліва-абачлівы, без ваяўнічых заклікаў.

Нарэшце, група чытачоў «Нашага слова» прапануе свой варыянт Гімна «Жыве Беларусь!» (з падачы Уладыся Жыгалкі) на музыку ўжо вядомага «Мы — беларусы...» кампазітара Сакалоўскага. Па-мойму, гэта з'яўляецца недарэчным і кашчунным, калі не авантурыстычным. Шкада, што спробу ўліць новае віно ў старыя мяшкі ахвотна падтрымала рэдакцыя газеты.

Лічу, што новы Дзяржаўны Гімн Рэспублікі Беларусь ужо створаны на словы Янкі Купалы «Маладая Беларусь» і даўно зацверджаны журы конкурсу пад старшынствам Н.С.Гілевіча. Для Гімна ж вельмі ўдала стасуецца Купалаўская сустрэча з вечна маладой Беларуссю. Цалкам згодны з высновамі журы, што верш Янкі Купалы — гэта «...незвычайна ёмісты згустак вобразаў, у якіх увасоблена ідэя адраджэння і дзяржаўнага станаўлення Беларусі... Тут і сэнсоўна значныя заклікі, і любасна-пяшчотныя, прыгожыя вобразы народа і яго зямлі, і скандэнсаваная ў скупых радках сурова-драматычная гісторыя Беларусі, і высокі голас права на «пачэсны пасад між народамі...» Лічу, што Янку Купалу яшчэ паўстагоддзя таму моцна абразілі, узняўшы вышэй за яго (ва ўгоду таталітарнай эліце) мала вядомага М.Клімковіча — аўтара «Мы — беларусы...» Дык давайце хоць сёння выправім тую недарэчнасць. Хай не крыўдуюць іншыя прэтэндэнты, а суцешацца думкай, што Янка Купала выпакутаваў права на Гімн Беларусі, і пераўзысці волата беларускай паэзіі ім не дадзена.

Напрыканцы некалькі пытанняў у адрас журы конкурсу і яго старшыні:

— Хто не дае ўзняцца з нізін купалаўскай «сакалінай сям'і»? Няўжо ў нас ужо расправілі хіжыя крылы айчынныя каршуны?

— Чаму пасля рашэння журы тэкст Купалаўскай «Маладой Беларусі» не быў (за рэдкім выключэннем) апублікаваны ў перыядычным друку?

— Чаму, шаноўны Ніл Сымонавіч, з Вашага абяцання-інтэрв'ю надоўга запусціць у эфір некалькі варыянтаў мелодыі «Маладой Беларусі» мы, слухачы, практычна былі пазбаўлены магчымасці праслухаць іх і супаставіць, выбраць найлепшы?

Новы Гімн ужо створаны слынным сынам Беларушчыны — Янкам Купалам. З чым і вітае ўсіх

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Рамельскай сярэдняй школы.**

# Буду наперадзе Радзімы

Высока ацэньваю працу «Нашага слова», але рубрыка «Створым Гімн Беларусі разам» неяк не стасуецца з агульным зместам газеты. Ці ж не пад музыку гэтага Гімна (? — *рэдакцыя*) вынішчалася свядомасць у беларусаў, праводзілася гвалтоўная русіфікацыя, адвучванне ад роднай мовы. Спачатку я не разабраўся, аб якім Гімне ідзе размова. Зараз шкадую, што прымаў удзел і патраціў дарэмна час. У нас ужо ёсць Гімн, з якім ішлі змагацца беларусы за сваю Радзіму ў час Слуцкага паўстання, — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» на словы паэта Краўцова.

У допісе Т.Сісновіч з г.Віцебска «Беларус ніколі не ставіў сваё імя наперадзе Бога і Радзімы» лічу недарэчнымі сцвярджэнні наконт вышэй прыведзенага, а таксама: «Беларусь заўсёды была Белай і заўсёды з Богам», «беларус адрозніваецца перш за ўсё сціпласцю...» і г.д. Беларус — слова зборнае, якое характарызуе мноства людзей. Так што сказ семантычна пабудаваны няправільна. Спадарыні Сісновіч вельмі ж хочацца, каб «сціплы» беларус стаяў па-за Радзімай (? — *рэдакцыя*), а не наперадзе, не засланяў яе сваімі грудзьмі і спадзяваўся на Бога, а на сваёй Радзіме хай гаспадараць кампаніі розных «саюзаў». Але, аказваецца, словы «мы абаронім з Богам Радзіму» — гэта ваяўнічасць і крымінал. Словам, ты, беларус, сціплы, то і павінен папрасіць і ў няпрошанага госця дазволу ў сваёй хаце пераначаваць пад лавою. Бацюхны! Аказваецца, Беларусь заўсёды была і Белай і з Богам. Быццам не было ні язычніцтва, ні прыняцця хрысціянства.

А наконт беларуса «з белай, чыстай душой», то мо прыгадаем, як расце злачыннасць, перапоўнены турмы і дзіцячыя дамы немаўляткамі, падкінутымі мамамі-валацужкамі ды алкагалічкамі. А карумпіраванае чыноўніцтва! Вось такія ёсць беларусы. Не будзем жа гэта ўсё спісаць толькі на нацменшасці, як у Расіі на чачэнцаў. Не трэба беларусаў ідэалізаваць. Мы не сталі яшчэ ў поўным сэнсе еўрапейскім народам, як, прыкладам, датчане, бо пакуль не ўкаранілася новая самасвядомасць і функцыяніруе старая палітычная сістэма.

А што да мяне асабіста, то я не пераканаНЫ, быццам «Бог захавае Белую Русь», і буду наперадзе Радзімы, буду бараніць яе, наколькі змагу.

**Мікола ВАЛОШЧЫК.**
г.Белаазёрск.

*Янка КУПАЛА*

## Маладая Беларусь

*Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка,*
*Што гібела сталецці ў бяспуцці, у пацёмках, —*
*Гэй, скажы, скуль цяперашня слава твая?*
*Гэй ты, гэй, Беларусь маладая мая!*

*Не з вясёласці яснай, не з ясных палацаў,*
*А з канаючай крыўды ў пахіленай хатцы,*
*Вызываная праўдай, таптанай, жывой,*
*Я ўзышла, расцвіла непагаснай зарой.*

*Дарма хеўры чужынцаў мяне застаўляюць*
*Пакланяцца ім, прадаюць і купляюць*
*І апекай сваёй зневажаюць мяне, —*
*З сваім людам не дамся ў сваёй старане.*

*Ні насмешак, ні построху ворагаў сільных,*
*Не пужаюся й песень панурых, магільных, —*
*Свету цэламу лжывыя вочы пратру,*
*Што ўладарка я тут, не ўмярла і не ўмру.*

*Гартавана слязьмі і крывёю народа,*
*Разаб'юцца цяпер аба мне ўсе нягоды.*
*І дзе ўпадак быў мой, стане думна сын мой,*
*Повен волі і славы, нязломнай ступой.*

*Я святла іскры ў думках бяздольных засею,*
*Адчаўлю сэрцы іхнія гартам, надзеяй,*
*Пакажу ім жыцця іх праўдзіву зару,*
*Па развалінах нову ўсябытнасць ствару.*

*І ад краю да краю, усё далей і далей*
*Моц мая разальецца нязможанай хваляй,*
*Песняры аба мне будуць песні складаць,*
*Народ будзе іх пець і мяне праслаўляць.*

*Грамадзянская згода, супольнасць загосце,*
*Аж усцешацца прадзедаў цені і косці,*
*Слоў унука не зглушыць ніякі прымус,*
*Што ён роднай зямлі верны сын, беларус.*

*Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка!*
*Уставай жа, уставай, з паніжэння, з пацёмкаў,*
*Хай жа будзе нязможана ўлада твая!*
*Гэй ты, гэй, Беларусь маладая мая!*

1909 г.

*Янка КУПАЛА*

## Маладая Беларусь

*Вольны вецер напеў вольных песень табе,*
*Бор зялёны узняў дружным гоманам.*
*Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,*
*Зоры веру ўлілі сілам зломаным.*

*І ў час буры, нягод і вялікіх надзей*
*Зацвіла, расцвіла даўгажданая,*
*І крыніцай жывой над айчызнай сваей*
*Паплыла, пацякла неспыняная.*

*Паплыла, пацякла з светлай казкай жыцця*
*Полем, лесам, гарой і далінаю...*
*З свойскіх кветак-пралесак — карона твая,*
*Уся сама — ясната лебядзіная.*

*Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,*
*Узнімаеш мінуўшчыну даўнюю;*
*Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш*
*І глядзіш смела ў будучнасць тайную.*

*Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,*
*Сееш ласкава сны залацістыя;*
*Не пужае сумежны дакучны сусед,*
*Не пужае пуціна цярністая.*

*Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца*
*Абнаўлення павевы расходзяцца,*
*Абнімае душу без граніц, без канца*
*Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.*

*Ужо не так тапары у зялёным бары*
*Хвойкі валяць зімой маразянаю,*
*Ужо не так касары ад зары да зары*
*Летам звоняць касой адкляпанаю.*

*Значан гарт у руках, чутна песня без слёз,*
*Грудзі славы надзеяй калышуцца,*
*У кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос*
*Наўсяды людзьмі новымі пішацца.*

*Расцвітай жа, узнімай на арліных крылах*
*Душы, сэрцы і думы заспаныя,*
*Вызывай, выклікай на вялікі прасцяг*
*Сілу, ведзьмай-пятлёй не чапаную.*

*Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,*
*Як з гнязда сакалінага сокалаў,*
*Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,*
*Хай грымяць весткай добраю ўвокала.*

*Годзе ў полі, у лясах ты, старонка, і так*
*Сіратой начавала забытаю,*
*Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,*
*Косці вецер тачыў непакрытыя.*

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!..*

1911—1912 г.

***Ад рэдактара.*** Нягледзячы на папярэджанне, што прапановы па стварэнні тэксту Гімна рэдакцыя прымае да канца снежня 1994 г., яны працягваюць паступаць. Выходзіць, у грамадстве існуе такая патрэба. Гэта пацвярджае і акалічнасць, што ўжо і «Народная газета», «Звязда» следам за намі прадаставілі свае старонкі творцам з народа. Што ж, мяркуем, толькі гэтак і можна высветліць, якога кшталту Дзяржаўны Гімн хоча мець грамадства. Такім чынам адбываецца і своеасаблівае сацыялагічнае даследаванне, і акт нацыянальнага яднання з дапамогаю калектыўнай мастацкай творчасці.

Мы вырашылі апублікаваць два лісты чытачоў, якія супраць самой ідэі (а такіх аказалася ўвогуле нямнога). Цікава, што іх аўтары паміж сабой не знаходзяць поўнай згоды. Дарэчы, мы паважаем іх пазіцыю, але не разумеем, навошта крыўдзіць і нават зневажаць тых, хто мае іншую думку. Так мы ніколі не дасягнём грамадзянскага супольніцтва. Давайце нарэшце ўсвядомім, што мы хоць і беларусы, але, як заўважае сп.Мікола Валошчык, характарамі, выхаванасцю, адукацыяй, разумовымі здольнасцямі, станам здароўя, узростам і г.д. сапраўды розныя. У той жа час выжыць зможам толькі разам, грамадою. А як? Паміж тым і спадарыні Т.Сісновіч з г.Віцебска ніяк не «хочацца», як чамусьці палічыў сп.Валошчык, каб «сціплы» беларус стаяў па-за Радзімай. Як мне асабіста падалося, сп.Сісновіч лічыць, што асноўнай рысай лепшай часткі нашых суродзічаў і з'яўляецца менавіта стараннe, праца дзеля Радзімы, а значыць абарона яе годнасці, яе незалежнасці.

З Богам таксама не ўсё проста. Нельга лічыць, што ён з'явіўся ў беларусаў толькі з прыняццем хрысціянства. Калі гаварыць для атэістаў, Бог — гэта сілы прыроды і разуменне законаў Прыроды — пабудова ўласнага жыцця згодна з гэтым, бо як насуперак — пагібель.

Што да меркавання Л.К.Раманенкі, быццам ідэя калектыўнага стварэння Гімна нешта недарэчнае, у свеце такіх прыкладаў няма і г.д., то мушу заўважыць наступнае. Па-першае: значыць, чакаць, калі нехта ў Сусвеце нешта зробіць, а мы паглядзім? Вельмі па-беларуску! Па-другое, усё ўвогуле не так. А народная песня? Яе культурная каштоўнасць бясспрэчная. У той жа час — гэта ж якраз прыклад супольнай калектыўнай працы многіх стваральнікаў. Нарэшце сааўтарства. Юрыдычна не абмяжоўваецца колькасць сааўтараў, прычым заўважым, што менавіта такім чынам у свеце створана багата нават мастацкіх шэдэўраў, тэкст жа Дзяржаўнага Гімна на гэта можа не прэтэндаваць. Хутчэй яму патрабуецца дакладнасць, адназначнасць (як у законе) выказвання. Гэтым ён адрозніваецца паміж іншым ад звычайнага верша, які далёка не заўсёды здольны стаць проста песенным тэкстам з-за сваёй шматзначнасці фразы, падтэксту, метафарычнасці і г.д.

Сп.Раманенка за тое, каб Дзяржаўным Гімнам Беларусі стаў верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь». Мушу нагадаць, што паэт двойчы звяртаўся да гэтай тэмы. Першы раз у 1909 г., праз два гады ў яго ўзнікла патрэба напісаць верш нанава. Гімнавая камісія спынілася на гэтым, другім варыянце. Але ж Янка Купала стварыў яго ў 1911—1912 г. Можа, дажыўшы да нашых дзён, ён бы хутчэй за ўсё яшчэ раз вярнуўся да свайго твора, чуйна адгукаючыся на рэаліі беларускага жыцця.

Паколькі не ўсе помняць тэксты згаданых твораў Янкі Купалы, мы вырашылі пазнаёміць з імі нашых чытачоў, публікуючы абодва.

**Замежжа**

**Замежжа**

# «Голас часу», студзень—люты-95

Напачатку нумара рэдакцыя змясціла сваё віншаванне чытачам з калpoints святамі.

*Рыгор Барадулін:*

# «Не ўяўляю сабе жыцця паэта асобна ад народа»



***Інтэрв'ю народнага паэта Беларусі, сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра Рыгора Барадуліна.***

**— Рыгор Іванавіч, сёння, калі Вам «стукнула» шэсцьдзесят, самы раз сказаць пра тое, наколькі важкі гэты юбілей: майстар слова, перакладчык, грамадскі дзеяч... А ўсё пачыналася з вытокаў: ад роду, ад роднай хаты, ад матчынай мовы. Скажыце, як пачыналася праца ў літаратуры — уплывы, перашкоды, этапы і г.д.?**

— Па-першае, дзякую за пытанне, але высокія эпітэты ў мой адрас тут лішнія. Я наогул не люблю гаварыць пра літаратуру, пра паэзію, пра самога сябе, а тым больш пра так званыя творчыя этапы ў сваёй пісьменніцкай біяграфіі. Па сутнасці пытання скажу наступнае: я практычна ўсё жыццё трымаўся і трымаюся на мове, якая дае мне ўсё: дае вобразы, дае рытміку, дае душу вершам. Без мовы нічога не можа быць, а яна — я ў гэтым перакананы і заўсёды гэта паўтараю — даецца разам з жыццём і даецца маці. Мне пашанцавала нарадзіцца ў той частцы Беларусі, якая яшчэ захавала і карані паганскія, і карані чыста беларускія — балта-славянскія, таму што Ушаччына—Полаччына знаходзяцца на сутыку з Балтыяй, з якой у нас шмат агульнага, пачынаючы ад тапонімаў і гідронімаў.

Але самае галоўнае, што дало мне сілу ў жыцці, — гэта маміна слова, маміна мова. Я не бачу для сябе нікога такога, хто б па глыбіні і дасканаласці ведання беларускай мовы — ды яшчэ з падсветкамі, адценнямі мясцовымі — меў перавагу над маёй мамай. «Матчын дар» дапамог мне выстаяць у пяцідзесятыя гады, калі я пачынаў працаваць у літаратуры. Беларуская літаратурная мова тады ў неабмежаванай колькасці паглынала калькі тыпу «сметанковае масла» або «зрабіць кепства» і трациіла рысы адметныя і самабытныя, што не дазваляла ёй як след развівацца і ўзбагачацца, аб чым сведчыць узровень тагачаснай паэзіі і прозы, — класікаў я не маю на ўвазе.

Бальшавіцкі рэжым, паколькі ён ставіў на мэце зліццё ўсіх паняволеных народаў у так званы адзіны савецкі народ, ведаў аб небяспецы з боку мовы. Адну нацыю можна зліць з іншай пры ўмове, калі будуць знішчаны іх мовы. Памірае мова — памірае і нацыя. Тады смела можна праводзіць эксперымент па ўтварэнні савецкага народа, вядома, на ідэйнай аснове «пралетарскага інтэрнацыяналізму» і барацьбы з перажыткамі нацыяналізму. У гэтым працэсе зліцця нацый асобая роля адводзілася мове расійскай. Яна павінна была служыць не толькі сродкам міжнацыянальных зносін, але і аб'ядноўваць людзей розных нацый, займаючы месца роднай мовы.

Быў такі лозунг: «Язык партии — русский язык». Расійскай была і мова арміі, і мова дзяржаўных установаў, і мова фабрык, заводаў, мова будоўляў, сталінскіх ГУЛАГаў. Невыпадкова ўся выхаваўчая сістэма: яслі, садок, школа, прафтэхвучылішча, інстытут працавалі на расійскай мове. Аднак родная мова яшчэ заставалася жыць у сялянскай хаце. Каб яе дастаць і там, трэба было знішчыць гаспадара, — не селяніна ў сённяшнім разуменні гэтага слова (працоўнага калгасніка, парабка, паднявольнага чалавека), а самастойнага і незалежнага чалавека. Трэба было яго выгнаць з хаты, з роднай краіны, а пасля ўжо выгнаць з душы мову і ўсё святое, што далі продкі і свая зямля. Бальшавікі хацелі — і часткова гэтага дамагліся — парушыць генетычны код беларуса, ці, як сёння кажуць, — змяніць беларускі менталітэт.

**— Вы закранулі сутнасць беларускай праблемы — выжыванне нацыі ва ўмовах каланіяльнага ўціску, які доўжыўся дзвесце гадоў і працягваецца зараз. На Вашу думку, беларусы асіміляваны канчаткова ці ёсць надзея на іх адраджэнне?**

— Што тут сказаць? За дзвесце гадоў, на працягу якіх наш народ і наша мова знаходзіліся пад магільнай плітой расійскай, а затым бальшавіцкай імперыі, апошнія семдзесят былі самымі цяжкімі. Бальшавікі — людзі разумныя і ўяўляць іх гэткімі дурнымі фрыцамі, на падабенства тых, што намаляваны ў нашай пасляваеннай літаратуры, не варта. Калі расійскі імперыялізм не зачапіў вёску і яна захавала ў чысціні родную мову і культурныя звычаі продкаў, то першыя ўдары бальшавіцкай улады прыйшліся менавіта па сялянству. Я ўжо не кажу пра тыя два мільёны суайчыннікаў, якіх вывезлі або якія мігрыравалі за межы Беларусі і сёння страчаны для яе. Дэкласаванае бальшавікамі сялян-ства разам з «класавымі» рысамі стра-ціла і рысы нацыянальныя. У новых умо-вах жыцця яно лёгка паддалося прыез-джым начальнікам, якіх баіцца і ад якіх пакутуе, і асімілявалася з рускамоўным насельніцтвам.

Увогуле расійскі вялікадзяржаўны — учарашні і сённяшні — шавінізм — самая страшная і агідная з'ява ў свеце. Мяркую, што гэта такое вучэнне. Любая нацыя фізічнае вынішчэнне пераносіць лягчэй, чым калі ў яе выграбаюць жар з-пад сэрца. Вялікадзяржаўны шавінізм — гэта шашаль, гэта сухоты, гэта самая цяжкая хвароба, на якую хварэе нацыя і якая практычна не вылечваецца. Спатрэбіцца не адно пакаленне, каб нараслі новыя беларусы, але наўрад ці гэта будзе ўжо тая нацыя, якой была.

**— Тым больш, што разбурана моўнае асяроддзе для яе адраджэння.**

— Так, моўнае асяроддзе разбурана, а тут яшчэ такі фактар, як гарады, якія камплектаваліся за кошт расійскіх чыноўнікаў і грамадзян. Генафонд нацыі свядома расцягваўся ў асноўным за кошт моладзі, — «будоўлі веку», Сібір, Карэлія, цаліна, — а да нас ішло перакаці-поле з Расіі.

**— Калі мы ўжо загаварылі пра лёс нашай мовы і нашага народа, то што Вам прадракаюць апошнія падзеі?**

— Яны даюць вельмі сумны прагноз, таму што нацыя даведзена да галечы, нацыя люмпенізаваная, дэкласаваная, дэнацыяналізаваная і практычна не здольная даць адпору, што зноў-такі сведчыць аб хваробе русіфікацыі і саветызацыі. Пакуль нацыя не вытравіць з сябе «савецкага чалавека», датуль яна нацыяй не стане. Гэта ж нечуваная ў свеце рэч, каб Прэзідэнт краіны ды зневажаў дзяржаўную мову, хай сабе яна яму і няродная! Гэты нечуваны эксперымент над беларускай нацыяй праводзяць сатанінскія сілы, не іначай. Немагчыма назіраць, як «усенародна абраны» вядзе наступ на ўсё беларускае, нацыянальнае, адраджэнцкае. Атрымліваецца, як у тых прыказках: «Прыйшоў з бору і гоніць з двору», «Прыйшоў у маю хату і б'е майго тату». А нацыя маўчыць.

**— Але ж выбралі сабе адпаведнага Прэзідэнта. 57 працэнтаў усіх выбаршчыкаў «клюнулі» на Лукашэнку.**

— Крэсла Прэзідэнта рыхтавалася пад Кебіча. Лукашэнка на яго трапіў па недагляду нашых вярхоўных палітыкаў. Пасада Прэзідэнта практычна спатрэбілася ў якасці шырмы для сакратара ЦК кампартыі РБ. Меркавалася, што Кебічпрэзідэнт будзе выконваць менавіта функцыі партыйнага боса. Таксама відавочна, якія сілы і якой краіны ў якасці запаснога варыянта ставілі ў нас Лукашэнку. Народ падманулі прафесіяналы ў гэтых гульнях. Бо калі, прыкладам, «Известия» надрукавалі пра яго абразлівы артыкул, спадар Лукашэнка прамаўчаў, бо разумеў, што яго ўшчуваюць гаспадары. Наш Прэзідэнт сябе гаспадаром не пачувае. А пачувае сябе дачаснікам, стаўленікам, таму і гаворыць на мове той сілы, якая яго паставіла.

**— Зараз добра заўважаецца, як нахабна і ўпэўнена паводзяць сябе прадстаўнікі антыдэмакратычных імперскіх сіл на Беларусі: маўляў, пагуляйце крыху ў суверэнітэт, хутка ваша песенька будзе спета.**

— Мяркую, што па-ранейшаму нам дыктуе «ўмовы гульні» маскоўская Лубянка. Наш КДБ нагадвае чацвёрты блок Чарнобыльскай АЭС пад саркафагам таемнасці. Як Кебіч, так і прадаўжальнік яго справы Лукашэнка ў сваёй дзейнасці арыентуюцца выключна на Маскву. Адсюль і прывязка да расійскай нафты, якую мы маглі б купляць цераз балтаў у другіх краінах, прычым гэта не пагражала б нам стратай суверэнітэту.

**— На прыкладзе з нафтай можна меркаваць аб тых сілах, якія ў сапраўднасці намі кіруюць. Так, як толькі пайшла гаворка пра будаўніцтва нафтаправода, што будзе нам падаваць нафту з іншых краін, адразу ўзнікла «справа» з турэцкімі ды польскімі шпіёнамі.**

— Гэта каб адрэзаць Беларусь ад Захаду ды іншых крыніц сыравіны. Авантура палітыкаў каштавала Беларусі мільёны долараў. А ўсё дзеля таго, каб захаваць прывязку да расійскай нафты. Агульнавядома, што бюджэт газпрама, які ўзначальвае расійскі прэм'ер Чарнамырдзін, у два разы з гакам перавышае бюджэт усёй Расіі — у самога Чарнамырдзіна на руках 60 працэнтаў акцый. Дык хто кім кіруе? Візіт Козырава ў Беларусь і падпісаныя дакументы з гэтай нагоды сведчаць, што наша незалежнасць сапраўды папяровая.

**— Рыгор Іванавіч, вернемся зноў да Вашай паэзіі. Што яе вызначала і абумоўлівала?**

— Не ўяўляю сабе жыцця паэта асобна ад народнага. А пачынаў я ў спрыяльны і адначасна неспрыяльны час. Добра, што гэта адбылося пасля развянчання культу асобы. І я захапіў хрушчоўскую «адлігу»; добра, што мяне цягнула да еўрапейскай паэзіі і паэзіі Усходу. Паратункам з беларускай класікі стаў М.Багдановіч і дарэвалюцыйны Я.Купала, паколькі наша пасляваенная паэзія была заангажаванай і прасавечанай.

**— А што было кепскага?**

— Кепскім было тое, што мы былі абмежаваны ў свабодзе слова. У кожным з нас сядзеў унутраны цэнзар. Васіль Быкаў калісьці гаварыў, што трэба выхоўваць у сабе не цэнзара, а ўнутранага рэдактара; кепска, што зноў жа праз нейкі час у краіне адрадзіўся культ асобы — адбыўся паварот да новай вялікай хлусні, што зноў пачало стрымліваць пісьменнікаў пісаць шчыра і праўдзіва. І толькі ў апошні час літаратар пачаў вызваляцца ад унутраных абмежавальнікаў, хоць сцвярджаць, быццам ён вызваліўся ад іх канчаткова, рызыкоўна. Што да мяне, то я і раней імкнуўся пісаць шчыра, хоць, жывучы ў атмасферы паліцэйскай дзяржавы, заўсёды адчуваў абмежавальнікі і адчуваю іх у нейкай меры і сёння.

**— Ці можаце сказаць, што ад чагосьці істотнага Вы адступаліся і адмаўляліся ў імя «вялікай хлусні»?**

— Я стараўся захаваць сумленне, захаваць душу — не прадаць яе д'яблу. Такім было маё крэда ў творчасці. І Бог злітаваўся нада мной. Я не стаў сябрам злачыннай партыі, у шэрагах якой сябе не ўяўляў. Я не хачу гэтым хваліцца, як іншыя, каб нажыць палітычны капітал. І не хачу папракаць тых, хто зараз кажа, што ішоў у партыю, каб служыць Бацькаўшчыне і народу. Адзінае, чым я сёння задаволены, што мне грэе душу, гэта, што ніколі не быў у партыі. Я сумеў выстаяць.

**— Вы спрактыкаваны перакладчык твораў замежных аўтараў на беларускую мову — Дж.Байрана, Г.Лоркі, А.Міцкевіча, Г.Містраль, С.Вальёхі, Я.Райніса, Т.Шаўчэнкі, С.Ясеніна, Б.Пастарнака, А.Хаяма і іншых. Скажыце, а што гэта дае Вам як паэту?**

— Пераклад — гэта своеасаблівы рыцарскі турнір, вялікая школа майстэрства і ўзбагачэння мовы, бо калі перакладаеш, то стараешся па магчымасці перакласці тэкст адэкватна арыгіналу. Дзеля гэтага даводзіцца шукаць словы, выдумляць новыя, пазычаць з мясцовых гаворак, асцярожна, ведама, бо доўгі час дыялектызмы выкрэслівалі з літаратуры і з маіх вершаў таксама, нават калі рытм ламаўся. Пішы, прыкладам, «яе», а не «ейнае». Формы літаратурнай мовы, здавалася, былі навечна кананізаваны.

**— А што ў Вас сёння ляжыць на стале?**

— Рыхтую да друку кніжку пад назвай «З чорным катом на плячы», якая мае два раздзелы. Першы з іх — «Нашча» — складаецца з лірычных твораў, у другі — «Зялёны кукіш морквы» — уваходзяць гумарыстычныя творы: пародыі, эпіграмы, нават гарэзлівыя латышскія дайны ў перакладзе на беларускую мову.

**— А што плануеце ажыццявіць у будучым?**

— Напісаць працу аб мове Ушаччыны — штосьці сярэдняе паміж слоўнікам і даследаваннем.

**— Прозу не пішаце?**

— Толькі малыя рэчы тыпу эсэ. Адзін такі твор, прысвечаны Васілю Быкаву, надрукавала «Наша слова».

**— А ўспаміны, аўтабіяграфічная аповесць ёсць у задуме?**

— Сёлета ў дзесятым нумары «Маладосці» я надрукаваў аўтабіяграфічнае эсэ пад назвай «На таку майго веку». Неўзабаве павінен выйсці зборнік «Аратай, які пасвіць аблокі». У ім чытач знойдзе некананізаваныя ўспаміны пра маіх сяброў, старэйшых таварышаў, класікаў літаратуры і вясёлы раздзел з «Здубавецця», у якім сабраны ўшацкія прыказкі, прыбабулькі, небыліцы, дзе прысутнічае таксама некананізаваны гумар.

**— Вы апрацоўваеце фальклор Ушаччыны?**

— Я гэта раблю. Кніжка ўжо ў карэктуры.

**— Рыгор Іванавіч, а хто Вашы сябры і што Вас з імі яднае?**

— Для мяне ўзорам і прыкладам на доўгія гады стаў Васіль Быкаў — мой зямляк, мой старэйшы таварыш па пяру, сумленне нашай нацыі. Васіль Уладзіміравіч якраз і дае прыклад таго, як змагацца і выстаяць у барацьбе — не прадаць душу д'яблу. Па прыкладу Быкава, як магу, спрыяю Народнаму Фронту. Не так даўно Васіль Уладзіміравіч, Зянон Пазьняк і я ездзілі на Гомельшчыну. Мэта паездкі — тлумачыць людзям сутнасць палітыкі, якую праводзіць БНФ, і мэты, якімі кіруецца гэты шырокі патрыятычны рух у сваёй дзейнасці (адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, адраджэнне нацыянальнай культурнай спадчыны, пабудова грамадства на дэмакратычных прынцыпах і інш.). Мяне парадавала, наколькі добра — шчыра і сардэчна — людзі прымалі лідэра БНФ, хоць яго ўвесь час шальмуе ўрадавая і пракамуністычная прэса, льюць памыі тэлебачанне і радыё. І ўсё ж людзі любяць Пазьняка, вераць яму.

**— На жаль, як справа даходзіць да выбараў, то людзей нібы падмяняюць. Дарэчы, Вы былі ў вобласці, дзе Пазьняк сабраў невялікую колькасць галасоў у час прэзідэнцкіх выбараў. Шмат народу збіралася на вашы сустрэчы?**

— Мы былі ў Гомелі і ў Хойніках і ўсюды нас сустракалі паўнюткія залы. Пазьняк выступаў і адказваў на шматлікія пытанні па дзве-тры гадзіны запар. З гэтай паездкі я зрабіў выснову, што людзі мысляць правільна і хочуць ведаць праўду.

**— З Зянонам Станіслававічам Вас звязвае работа ў Фронце?**

— Не толькі. Мне імпануе асоба Пазьняка, чалавека разумнага, высакароднага, які робіць палітыку «чыстымі рукамі». Сапраўдны лідэр нацыі. Не дарэмна Васіль Быкаў назваў яго прарокам. Пазьняк глядзіць далёка наперад, умее прадбачыць будучыню. Разам з Зянонам Пазьняком і Васілём Быкавым я імкнуся бараніць беларускую ідэю, якая толькі і здольна аб'яднаць і павесці за сабой народ.

**— Ці не адным з першых Вы ўступілі ў Народны Фронт?**

— Я ў Народным Фронце з Аргкамітэта, а сябра Сойму з першага склікання з'езда, які адбыўся ў Вільні. Удзельнічаю ва ўсіх масавых акцыях, што праводзіць Фронт, — люблю несанкцыянаваныя мітынгі больш за афіцыйныя. Аднак сказаць, што я прысвяціў сябе цалкам рабоце ў БНФ,

*(Заканчэнне на с.7.)*

Мікалай КРЫЎКО – беларушчына
Алена ШЧУКА – англійшчына

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАБО́ЛЬШВАЦЬ** (падаваць, паказваць або ўяўляць большым, чым у сапраўднасці) *Сцяпан усё хваравіта перабольшваў, яму здавалася, што Мая аднолькава ставіцца як да яго, так і да Дрыбы, і да іншых* (Дуброўскі). *Не, Ганка не перабольшвала, як некаторыя, сваю прыгажосць і дакладна ведала, што нічога адметнага яе твар не ўяўляе* (Савіцкі). *Хлапчук, думаю, перабольшвае. Ён, відаць, таксама з пароды рамантыкаў, а ствараць легенды аб верхалазах-мантажніках не так ужо цяжка* (Дадзіёмаў), **ПЕРАВЯЛІ́ЧВАЦЬ** *— Гэтыя людзі маглі да нас прыйсці. Прыйшлі таму, што паверылі.. пану Крамеру, бургамістру. Ён гарантаваў ім жыццё. — Вы перавялічваеце, капітан. Гэта заслуга нямецкай арміі* (Навуменка). *Пісьменнік перавялічвае ролю работы Петрыка ў дэпо, амаль зусім не паказвае яго сярод аднагодкаў, не ўводзіць у кола школьных інтарэсаў* (Арабей), **ГІПЕРБАЛІЗАВА́ЦЬ** кніжнае, узмацняльнае *Рыпінскі імкнецца гіпербалізаваць блізкасць беларускай мовы да польскай і выкарыстоўвае гэта як аргумент, каб лічыць Беларусь састаўной часткай Польшчы* («Гісторыя бел. літ. мовы», т.2). *У мінулым з боку даследчыкаў польскай арыентацыі мела месца гіпербалізаваная ацэнка ролі паланізмаў у слоўнікавым саставе старабеларускай пісьменнасці, і гэта часам знаходзіла адлюстраванне нават у самой назве старабеларускай пісьмовай мовы, якую некаторыя схільны былі лічыць польска-рускай* (Жураўскі), **УТРЫ́РАВАЦЬ** узмацн. *— Сапраўды, твой арышт падобны да прыгодніцкага апавядання, — пацвердзіў Максім. — А можа ты, як паэт, утрыруеш крыху, для прыгожага слова?* (Машара). *— «Як табе служыцца, з кім табе дружыцца?» — весела прадэкламаваў сын і гэтак жа весела адказаў: — Добра, бацька. Не трэба многа думаць. Усё робіш па камандзе... — Не утрыруй, калі ласка. Ты не бяздумны аўтамат* (Шамякін), **МУСІ́РАВАЦЬ** кніжн., узмацн. *Мусіраваць чуткі. Барушка, які хацеў выглядаць аб'ектыўным, мусіраваў думку, што Юркевіч варты ордэна* (Карпаў), **РАЗДУВА́ЦЬ** разм., узмацн. (наўмысна перабольшваць з якой-н. мэтай) *Хацелася «высцебаць» гэтага Хмеля, але за ім лічылася некаторая даўнасць, а значыць, і... вядомасць, якую так адкрыта раздуваў ён, сам Апанас* (Пестрак). *Гэтыя людзі выпадак з Раманюковай каўбасой і бочкай піва раздулі да легенды* (Карпюк). *— Закончанае трыванне:* **Перабо́льшыць, перавялі́чыць, гіпербалізава́ць, утры́раваць, разду́ць**. *— Антонімы:* **Перамянша́ць, прымякша́ць, змянша́ць.**

**Перабольшваць**. Англійскімі адпаведнікамі гэтага беларускага сінанімічнага гнязда з'яўляюцца тры дзеясловы: **exaggerate, overrate, blow up**. Першы — запазычанае з лаціны, другі — этымалагічны гібрыд (англ. прэфікс *over* + лацінскі корань). Абодва дзеясловы стылістычна нейтральныя. Трэці дзеяслоў — blow up бліжэй усяго да беларускага разм. *раздуваць*. Цікава адзначыць не толькі іх стылістычнае падабенства, але і аднолькавую матывізацыю. (Параўнайце бел. *дзьмуць* і англ. *blow*).

**ПЕРАБЫ́ЦЬ і ПЕРАБЫВА́ЦЬ** (пабываць у розны час у каго-н., дзе-н. — пра ўсіх, многіх; пабываць у каго-н. у руках, у чым-н. валоданні — пра ўсё, многае) *Бадай што ўсе перабылі ў нас, не зайшла толькі Аксеня* (Лупсякоў). *Такія госці тут не ў навіну: іх перабыло ўжо нemaведама колькі* (Новікаў). *Шмат у яго [Максімавых] руках перабыло трохрадак* (Куляшоў). *Да канца Валінай змены ў сталовай перабывала яшчэ багата людзей, найбольш вадзіцеляў цеплавозаў* (Васілёнак). *Ох, колькі гэтых вяршкоў перабывала ў руках Мікалая за век!* (Якімовіч), **ПЕРАВЯРНУ́ЦЦА** узмацн. *За шэсць год вайны і за дзве акупацыі на гэтай бітай дарозе перавярнулася бездань людзей* (Чорны). *Шмат людзей перавярнулася за гэты час у Сцяпанавай хаце* (Пальчэўскі). *Тысяча думак перавярнулася ў галаве* (Шыцік). *— Незакончанае трыванне:* **Перабыва́ць, пераваро́чвацца**.

**ПЕРАВАЖА́ЦЬ** (мець перавагу, займаць пануючае становішча) *Тут пераважаюць сосны, але густа расце і ядловец, і маладыя дубкі, і арэшнік* (В.Вольскі). *У дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры пераважала паэзія і драматургія* (Пшыркоў), **ПРЭВАЛІ́РАВАЦЬ** кніжн. *У фразеалагізмаў якасці і колькасці стану і адносін дэнататыўныя адносіны іх кампанентаў прэваліруюць над канататыўнымі* («Гістарычная лексікалогія бел. мовы»), **ДАМІНАВА́ЦЬ** кніжн. *Пачуццё дружбы і тая самая непрымірымасць к панам, якая заўважалася і ў Захара Зубца, дамінавала над усім у Савы* (Пестрак). *У сатырычнай камедыі дамінуе грозны, бязлітасны, саркастычны смех* (Усікаў). *— Параўнайце:* 1. **П а н а в а ц ь.**

**Пераважаць**. Абодва англ. адпаведнікі — **prevail і predominate** іншамоўнага паходжання, як і блізкія да іх па форме бел. *прэваліраваць* і *дамінаваць*. Але калі гэтыя абодва беларускія сінонімы адзначаны як кніжныя, то ў англійскай мове толькі *prevail* належыць да кніжнай лексікі.

1. **ПЕРАВА́ЖНА** (ужываецца для ўказання на тое, што група якіх-н. асоб, прадметаў і г.д. складае большасць, большую частку каго-, чаго-н.) *Большасць, сярод якіх былі пераважна дзеці, старыя, жанчыны, адсылалі назад, на бераг* (Лынькоў). *Крыху воддаль працавала група моладзі, пераважна — дзяўчаты* (Шамякін). *Гэты мыс лясісты, растуць тут пераважна дубы* (Пестрак), **ГАЛОЎНЫМ ЧЫ́НАМ** *На плошчы было шмат людзей, галоўным чынам сялян* (Гурскі). *Назоўнікі, якія ўтвораны ад асноў дзеясловаў, абазначаюць галоўным чынам прадметы паводле іх прызначэння* («Граматыка бел. мовы», т.1), **У АСНОЎНЫМ** *Шарваркоўцы былі ў асноўным з Ніжніх Байдуноў* (Брыль). *У асноўным французскія словы ў беларускай мове тыя ж самыя, што і ў рускай мове* (Юргелевіч), **БОЛЬШ ЗА ЎСЁ** *Больш за ўсё было мужчын, нават каторыя старыя папрыходзілі* (Сабаленка). *Тут лавіліся добрыя акунькі, траплялі шчупакі на шнур, часам пападаўся дробны сом. А больш за ўсё лавіліся плоткі* (Лынькоў), **(УСЁ) БОЛЬШ** разм. *На вечарынку сыходзіўся народ, больш моладзь* // (ужываецца для ўказання на перавагу якога-н. дзеяння, стану) *Міхась пераважна маўчаў, а выпіўшы — здымаў са сцяны старую разладжаную балалайку, трымкаў па струнах.., як зубам з бараны* (Брыль). *Той [Толькаў прыяцель] пераважна слухаў, а я адразу ўключыўся ў балбатню і жарты* (Караткевіч). *Галоўным чынам гаварыла яна, ён больш маўчаў. Апошнім часам стары ў асноўным хварэе. Зараз маці больш хварэе.*

**Пераважна**. Англійскі сінанімічны рад таксама даволі рэпрэзентатыўны: **mostly, mainly, largely, predominantly**. Структурна ўсе гэтыя вельмі блізкія сінонімы аб'ядноўвае адна і тая ж словаўтваральная мадэль: прыметнік + суфікс *-ly*. Пры гэтым два апошнія прыслоўі з'яўляюцца этымалагічнымі гібрыдамі: першая частка (прыметнік) — словы раманскага паходжання, а суфікс *-ly* — германскага. Варта адзначыць, што прыслоўяў менавіта такога тыпу ў англійскай мове вельмі шмат. Пра слова predominantly трэба дадаць, што стылістычна гэты сінонім належыць да кніжнай лексікі і ўжываецца галоўным чынам у дачыненні да людзей.

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ,
кандыдат гістарычных навук

*Гісторыя беларускага пісьменства*

# Дакірылічнае пісьмо на Беларусі

***(Заканчэнне.)***

Вядомы гісторык Тэадор Нарбут упершыню апублікаваў адну з манет, знойдзеных у 1826 г. каля в.Агароднікі Лідскага павета. На адным баку манеты была выява чалавека ў шлеме і кароне, з мячом у руцэ, а на другім баку — выява шчыта з вершнікам на ім. Там жа была выява мядзведзя. Па краях манеты з абодвух бакоў былі надпісы, знакі якіх нагадваюць руны. Т.Нарбут надпіс лічыў прысвечаным вялікаму князю Міндоўгу, а на думку польскага гісторыка І.Лелявеля — гэта рунічная манета дацкага караля Магнуса.

На гарадзішчы Маскавічы каля Браслава ў пластах XII—XIII стст., акрамя скандынаўскіх рунічных надпісаў на костках, знойдзены праселкі з літарападобнымі знакамі, якія, паводле класіфікацыі Л.Дучыц, падраздзяляюцца на 43 віды (фактычна іх 42, паколькі знакі 7 і 41 супадаюць). Такая колькасць знакаў прыблізна супадае з колькасцю літараў у кірыліцы. Аналогіі гэтым знакам ёсць на рэчах з раскопак Менска, Ваўкавыска, Гародні, Ерсікі, Ноўгарада.

Нейкія загадкавыя пісьмёны вядомыя і на Віленшчыне, якая яшчэ з сярэднявечча належала да беларускай этнічнай тэрыторыі. Пяць надпісаў паходзяць з самой Вільні: на бяросце IX ст., выяўленай у Старым арсенале Ніжняга замка, на костцы з таго ж арсенала (канец XI—XII ст.), на трох цаглінах канца XIII—першай паловы XIV ст. з касцёла св.Мікалая. Яшчэ адзін кароткі надпіс з чатырох знакаў вядомы на камені з ваколіцаў мястэчка Кернава (каля 30—35 км на паўночны захад ад Вільні). Вітаўтас Рымша, які апублікаваў гэтыя шэсць надпісаў, зрабіў спробу іх дэшыфроўкі, але яе нельга прызнаць пераканаўчай з-за недасканаласці методыкі. В.Рымша пры расшыфроўцы кожнага знака эклектычна падбіраў знешне падобныя адпаведнікі ў алфавітах самых розных старажытных народаў, аддаленых нярэдка адзін ад другога за тысячы кіламетраў: кірылічным, лацінскім, грэцкім, фрыгійскім, фінікійскім, пісьме з вострава Лемнас і г.д. Выпадковае знешняе падабенства яшчэ нічога не даказвае і не дае падстаў сцвярджаць аб агульным



гукавым значэнні супадаючых па форме знакаў. Таму недаказанай застаецца і выснова В.Рымшы наконт прыналежнасці надпісаў этнічным літоўцам. Але затое вядомы факт даволі ранняга з'яўлення на Віленшчыне крывічоў, а потым беларусаў. Археалагічныя раскопкі ў Вільні засведчылі значную колькасць славянскіх знаходак ужо ў пластах XII—XIII стст.

Некалькі загадкавых знакаў маецца на касцяным кісцені, які быў выяўлены ў пласце XIII ст. пры раскопках горада Рослаўля на захадзе Смаленшчыны.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ўсе пералічаныя надпісы паходзяць, як правіла, з паўночнай або сярэдняй часткі Беларусі, г.зн. пераважна з тэрыторыяй пражывання або ўплыву крывічоў. Досыць блізка ад гэтага арэала знаходкі з былой Цвярской губерні. Гэта знакі на гаршках з дарэвалюцыйнага Цвярскога музея, а таксама на медных бляхах з курганоў каля горада Корчава. На дзвюх бляхах знакі ідуць колам, утвараючы два аднолькавыя надпісы. Вядомы надпіс на камені ў Бежацкім павеце той жа губерні. У адной публікацыі XIX ст. паведамлялася пра знаходку шаблі з загадкавым надпісам на Цвяршчыне і што дакладна такая шабля з такім жа надпісам была вывезена палкоўнікам артылерыі Пістоленкорсам з «Літвы» ў час «усмирения» паўстання 1830—31 гг.

У 1993 г. у Маскве выйшла кніга Г.С.Грыневіча «Праславянская пісьменнасць. Вынікі дэшыфроўкі». Аўтар кнігі зрабіў спробу абагуліць звесткі пра дакірылічную пісьменнасць у славян і дэшыфраваць надпісы, у тым ліку на праселку з-пад Гародні і Кісцені з Рослаўля. Пісьмо тыпу «чэрт і рэзаў» ён лічыць складовым. Але да праславянскай пісьменнасці Г.Грыневіч адносіць надпісы не толькі з усходне- і заходнеславянскіх тэрыторый, але і тэксты на славутым Фесцкім дыску з Крыта, крыцкае лінейнае пісьмо А і Б, эпіграфічныя помнікі этрускаў і нават шумераў. Насельніцтва, пакінуўшае ўсе гэтыя надпісы, ён лічыць праславянскім (атрымліваецца, як у вядомым сюжэце «Пасія — радзіма сланоў»). Пасля такіх фантазій наконт праславянскіх цывілізацый у старажытным Індастане і Шумеры ўжо не ўнушаюць даверу і спробы высвятлення гукавога і значэння асобных знакаў.

Вяртаючыся да надпісаў загадкавым пісьмом з Беларусі, трэба прызнаць, што іх сур'ёзнае вывучэнне пакуль і не праводзілася. Невядома нават, адна гэта была сістэма пісьма ці некалькі. Адсутнічае зводная табліца знакаў, не высветлена частата паўтараемасці кожнага з іх. Складанай праблемай з'яўляецца рэканструкцыя мяркуемага дахрысціянскага алфавіта. З цягам часу ў графічным выглядзе знакаў маглі адбывацца трансфармацыі, звязаныя з развіццём пісьма. Урэшце, невядома, на якой мове быў кожны з надпісаў: па-славянску ці на мове рэшткаў балцкага насельніцтва. Вырашэнне праблемы дэшыфроўкі дакірылічных надпісаў, магчыма, дазволіла б па-новаму глянуць на раннюю гісторыю Беларусі.

***БЕЛАРУСКАЯ МОВА — МОВА НАВУКІ***

# Першая ластаўка

З задавальненнем паведамляем, што выйшаў з друку і ёсць у продажы падручнік «Курс вышэйшай матэматыкі», ч. 1. Аўтары Валянцін Русак, Людміла Шлома, Віктар Ахраменка, Алесь Крачкоўскі. Выдавецтва «Вышэйшая школа». Падручнік прызначаны для прыродазнаўчых і тэхнічных спецыяльнасцяў ВНУ. Другі том плануецца да выдання ў 1995 годзе, трэці — у 1996; дадаткова да падручніка будуць выдадзены два тамы задачніка, што поўнасцю забяспечыць вывучэнне гэтай дысцыпліны на роднай мове. (Адзначым, што апошняе выданне падобнага зместу на беларускай мове датавана 1936 годам.)

ВАЛЯНЦІН РУСАК
ЛЮДМІЛА ШЛОМА
ВІКТАР АХРАМЕНКА
АЛЕСЬ КРАЧКОЎСКІ

КУРС
ВЫШЭЙШАЙ
МАТЭМАТЫКІ



Усе аўтары ўжо некалькі гадоў выкладаюць вышэйшую матэматыку па-беларуску ў розных ВНУ Менска. Гэта дало ім магчымасць праверыць на практыцы поўную прыдатнасць нашай мовы для матэматычнай дысцыпліны. Падручнік напісаны на цудоўнай беларускай мове. Матэматычную тэрміналогію яго вылучае выразная беларуская адметнасць, аснову якой складае няўхільнае скарыстанне ўласных тэрмінатворчых сродкаў нашай мовы. Гэта выгадна вылучае памянёны падручнік. Прыемна адзначыць кваліфікаваную падрыхтоўку рукапісу да друку выдавецтвам і высокія паліграфічныя якасці выдання.

Але, на нашу думку, наклад у 8000 паасобнікаў не зможа задаволіць патрэбу нават сённяшняга дня, не кажучы пра дзень заўтрашні, калі на родную мову выкладання будзе пераходзіць усё большая колькасць нашых ВНУ. Мы віншуем аўтараў і выдаўцоў і зычым ім плёну ў далейшай працы.

***МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»***

Сымон БАРЫС

# Як у нас клічуць?

***Мужчынскія імёны***

*(Працяг.)*

**Тадэвуш**. Паводле М.В.Бірылы, паходзіць ад імя Фадзей, якое з яўр. мовы — пахвала. Вытв. Тадзік, Тадзічак, Тадзішка, Тадзісь, Тадзяш. Імяніны кат. 28.10. Імя па бацьку — Тадэвушавіч, Тадэвушаўна.

**Тамаш, Тамась**. Фома (яўр.) — блізнец. Вытв. Томка, Тамась, Тамашук, Тамчук, Тумаш; Томась, Томка, Томік, Томічак; Хама, Хомка. Імяніны: пр. 3.04; 7.05; 13, 20.07; 19.10; 23.12; кат. 28.01; 7.03; 3.07; 22.09; 21, 29.12. Імя па бацьку — Тамашавіч, Тамашаўна і Тамасевіч, Тамасеўна.

**Тарас**. Тарасий (грэч.) — які хвалюе. Вытв. Тарасік, Тараска, Тарасок, Тарасюк. Імяніны 10, 22.03. Імя па бацьку — Тарасавіч, Тарасаўна.

**Тодар, Фёдар**. Феодор (грэч.) — божы дар. Вытв. Тодзік, Тодзічак, Тадук, Тадусь, Тадарук, Тодас, Тадзё, Тадарэц, Тодаш. Імяніны: пр. 9.01; 27.02; 19.03; 16.12; кат. 7.02; 26.03; 4.07; 24.09; 23, 29.10; 9.11. Імя па бацьку — Тодаравіч, Тодараўна і Фёдаравіч, Фёдараўна.

**Трафім, Трахім**. Трофим (грэч.) — гадаванец, выхаванец. Вытв. Трафімка, Трафімчык, Троня, Тронька, Трахім, Трахімка, Трахімчык, Троха, Троша, Трошка, Атрох; Фіма, Фімачка, Фішка. Імяніны 17.01; 29, 31.03; 28.04; 5.08; 2.10. Імя па бацьку — Трафімавіч, Трафімаўна і Трахімавіч, Трахімаўна.

**Трыфан**. Трифон (грэч.) — той, хто жыве ў раскошы, распешчаны, пястун. Вытв. Трышка, Трышанька, Трышачка, Фоня. Імяніны 14.02; 2.05. Імя па бацьку — Трыфанавіч, Трыфанаўна.

**Тур** (слав.). Вытв. Турык. Імя па бацьку — Туравіч, Тураўна.

*(Працяг будзе.)*

# У Менску створаны дзве скаўцкія харугвы




**Герб Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў.**

Прайшло тры гады з моманту Устаноўчага сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў (АБС). І вось 25 лютага 1995 года ў Менску ў Рэспубліканскім палацы дзяцей і моладзі (вул.Кірава) а 9 гадзіне адбудзецца адкрыццё Другога сойма АБС. На сойме будуць падведзены вынікі развіцця скаўцкага руху ў рэспубліцы сярод моладзі Беларусі, перавыбары кіраўніцтва, змены Статута і шэраг іншых пытанняў.

Першыя суполкі Крывіцкіх скаўтаў былі створаны ў 1921—22 гг. у гімназіях Нясвіжа, Клецка і Вільні. Ля вытокаў скаўцкага руху на Беларусі стаялі пісьменнікі, навукоўцы і грамадскія дзеячы: Максім Гарэцкі, Янка Купала, Францішак Аляхновіч, Леапольд Родзевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Сяргей Новік-Пяюн. 74 гады беларускаму скаўтынгу і тры гады з моманту адраджэння. Што ж зроблена за перыяд адраджэння скаўцкага руху моладзі ў нашай рэспубліцы? Створаны скаўцкія суполкі ва ўсіх абласцях, гарадах і вёсках. Выраслі таленавітыя скаўты-лідэры і скаўтмайстры, якія увесь свой талент і розум аддаюць выхаванню нашай скаўцкай моладзі (Людміла Шлеперава, Алёна Грыжэльчык, Алесь Чарняўскі, Уладзімір Канавалаў, Пётра Баслык і інш.).

У Менску створаны дзве харугвы: імя Янкі Купалы і Вітаўта.

Харугва імя Янкі Купалы прадстаўлена скаўтамі ўсіх узростаў, пачынаючы ад малодшых скаўтаў-ваўчкоў і заканчваючы скаўтамі, скаўтамі-акадэмікамі і ровар-скаўтамі (скаўтэрамі, старэйшымі скаўтамі). Харугва імя Я.Купалы рыхтуе скаўцкіх лідэраў і скаўтмайстроў па 140-гадзіннай праграме, якія працуюць са школьнікамі ў беларускамоўных класах. Харугва мае штаб-кватэру пры Беларускім педагагічным універсітэце і выдатную вучэбна-трэніровачную базу, якая ўключае два палігоны для трым-арыентавання і экалагічную сцежку працягам ад 5 да 30 кіламетраў, на якой праводзяцца практычныя заняткі па асновах тэхнікі і тактыкі турызму і арыентавання, экалагічнае выхаванне, асновы выжывання ў экстрэмальных сітуацыях. У 1993 годзе выдадзены падручнік для скаўтаў і скаўцкіх лідэраў «Спадарожнік скаўта». Скаўтмайстры і скаўты-лідэры харугвы вядуць актыўную работу па пашырэнні скаўцкага руху сярод моладзі, выступаюць па радыё і тэлебачанні, чытаюць лекцыі ў школах вобласці, выступаюць на навуковых канферэнцыях і на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў (у гарадскім, абласным і рэспубліканскім інстытутах). Харугва супрацоўнічае са скаўцкімі суполкамі Беларусі і Украіны.

Зарэгістравана Харугва імя Я.Купалы пры Рэспубліканскім Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны, з якім супрацоўнічае па пытаннях вывучэння гісторыі і культуры, пашырэнні роднай мовы сярод нашай моладзі. Сабраныя матэрыялы па гісторыі і культуры беларускага народа сябры харугвы перадалі ў музей Рэспубліканскага цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму Рэспублікі Беларусь. Прынцыпы працы харугвы заключаюцца ў аб'яднанні намаганняў па выхаванні нацыянальна свядомай моладзі, таму харугва супрацоўнічае з усімі маладзёжнымі суполкамі.

Скаўтынг — гэта сістэма выхавання моладзі. Ставіцца мэта выхоўваць асоб з моцным характарам, з актыўнай жыццёвай пазіцыяй і фізічна загартаваных, якія жывуць у згодзе з прыродай і людзьмі. Скаўтынг выхоўвае любоў да мовы, гісторыі, культуры, лепшыя маральныя якасці, прывівае пачуццё сяброўства, развівае творчае мысленне, зрокава-вобразную памяць. Будуецца на прынцыпах добраахвотніцтва, самадзейнасці і на прызнанні Бога. Гэта міжнародны, непалітычны рух моладзі, пачатак якому паклалі ў 1907 г. выдатны выхавацель моладзі Роберт Бадэн-Паўэл і канадскі пісьменнік Сэтан Томпсан.

Р.Бадэн Паўэл (вядомы як Бі-Пі) нарадзіўся 22 лютага 1857 года ў сям'і прафесара Оксфардскага універсітэта. З дзяцінства захапляўся вандроўкамі і жыццём на прыродзе, меў здольнасці да музыкі і мастацтва, займаўся спартыўнымі гульнямі, напісаў 32 кнігі для моладзі і за 83 гады свайго жыцця атрымаў 28 ордэнаў і медалёў і 19 замежных скаўцкіх Знакаў пашаны.

**Віктар АКІМАЎ,**
**ровар-скаўт, сябар Рады Харугвы імя Янкі Купалы, сябар Рады АБС.**

## АДГУКНУЛІСЯ НА АНКЕТУ «НС»

### Падабаецца ў газеце ўсё

Піша вам Амяльчэня Ігар са Слуцка. У гэтым годзе я заканчваю агульнаадукацыйную школу і збіраюся паступаць у Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт на факультэт беларускай філалогіі і культуры. Родным словам я цікаўлюся з дзяцінства. У маёй радні няма ні настаўнікаў, ні пісьменнікаў, ні журналістаў. Усе члены маёй сям'і — простыя людзі. Прычым моцна зрусіфікаваныя, далёкія ад нацыянальнай ідэі.

Падпісчыкам вашай цудоўнай газеты я з'яўляюся толькі паўгода. Выпісаў яе зусім выпадкова: проста захацелася нарэшце чагосьці цалкам беларускага, без ніякага так званага двухмоўя, а ў школьнай бібліятэцы ўбачыў «Наша слова», пачытаў і, не вагаючыся, пайшоў на пошту. І цяпер разумею, што зрабіў добры выбар.

Мне падабаецца ў вашай газеце ўсё: і вострыя палітычныя матэрыялы, і матэрыялы аб праблемах роднага слова, і матэрыялы, што вучаць правільнасці вымаўлення, напісання...

У № 3 за 18 студзеня вы папрасілі назваць дзесяць найбольш цікавых рубрык, расставіўшы іх у адпаведным парадку. Калі шчыра, мне падабаюцца ўсе. І ўсё ж:

1. Вам, школьнікі!
2. Філалогія.
3. Вучымся (асабліва раздзел «Культура мовы»).
4. Меркаванні.
5. Згадкі.
6. Рупліўцы.
7. Але!
8. Чыталі?
9. Рэха.
10. Пытанне — адказ.

Яшчэ зусім маладая рубрыка «Вам, школьнікі!» падабаецца найбольш, бо праз яе можна нарэшце прачытаць шэдэўры сусветнай літаратуры па-беларуску. Гэта выдатна!

Мяркую, што «Наша слова» чытаюць нацыянальна свядомыя юнакі і дзяўчаты. На жаль, аднадумцаў у нашым горадзе знайсці цяжка. Таму ў мяне просьба: калі ласка, надрукуйце маю аб'яву: «Хачу пасябраваць з хлопцамі, якія ў гэтым годзе заканчваюць школу і збіраюцца паступаць на філалагічны факультэт БДПУ ці БДУ. Мне 16 гадоў, рост 182. Жыву і вучуся ў г.Слуцку. Вельмі люблю беларускую мову, літаратуру, культуру. Пішыце мне і, можа быць, вы знойдзеце добрага і надзейнага сябра-аднадумца. Мой адрас: 223610, Менская вобл., г.Слуцк, вул.Будаўнікоў, д.4, кв.86, Амяльчэні Ігару».

На гэтым заканчваю. Хачу сказаць: «Цяперашнім рупліўцам беларушчыны ёсць на каго разлічваць у будучыні!» Жыве Беларусь!

### Не хацеў бы перамен

Шаноўная рэдакцыя! Вы прапанавалі чытачам адказаць на тры пытанні. З задавальненнем раблю гэта.

Пачну адразу з трэцяга. Прыблізна з 1993 года я час ад часу купляў «Наша слова», на гэты год — падпісаўся. Другое. Дзесяць рубрык назваць не магу, але больш за ўсё мяне цікавіць адна — «Культура мовы».

І, нарэшце, першае. Я не хацеў бы чытаць у «Нашым слове» нічога, акрамя таго, што магу прачытаць зараз. Я падпісаўся на тую газету, якая існуе цяпер, і вельмі не хацеў бы атрымліваць нейкую іншую з той жа назвай.

Дарэчы, чытач В.Смуга запытаў: «Чаму ўжо не друкуеце праграмы перадач БТ?» Не рабіце гэта. У свой час у «ЛіМе» на апошняй старонцы друкаваліся вельмі цікавыя артыкулы. Потым там з'явіліся праграмы тэлебачання. Не паўтарайце таго ж у «Нашым слове». Пакіньце праграмы іншым газетам.

**Ігар СКРЫПКО,**
**навучэнец Маладзечанскага музычнага вучылішча.**

## РУПЛІЎЦЫ

**Рыгор Барадулін:**

# «Не ўяўляю сабе жыцця паэта асобна ад народа»

*(Заканчэнне. Пачатак на с.4.)*

як іншыя, не магу. Бо я літаратар і рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**— А іншыя Вашы сябры — хто яны?**

— Я, як тое дрэва, на якім застаецца ўсё меней лісця. Сябры адлятаюць у вырай...

**— Як Уладзімір Караткевіч?**

— Як Караткевіч. Колькі сябе ўяўляю ў літаратуры, у справе творчасці, столькі разоў бачу побач Валодзю. З ім я пазнаёміўся ў Каралішчавічах на радзе маладых літаратараў. Гэта адбылося ў пяцьдзесят пятым годзе. З таго часу і да апошніх дзён яго жыцця мы былі разам. Падарожнічалі па Прыбалтыцы і Беларусі, бывалі і на маёй Ушаччыне і на яго радзіме. Караткевіч быў для мяне і застаецца прыкладам сумленнай працы ў літаратуры. Прыкладам таго, як трэба любіць Бацькаўшчыну і ёй служыць. Па сутнасці ён быў Вялікім настаўнікам: настаўнікам мовы, настаўнікам гісторыі, настаўнікам геаграфіі, беларусазнаўства ў цэлым. Тое, што аб ім напісана, напісана павярхоўна. Караткевіч будзе ацэнены толькі з гадамі. Дарэчы, у сваёй кнізе напісаў я ўспаміны, успаміны вясёлыя, нават гарэзлівыя пра свайго незабыўнага сябра — называюцца «І коскі з месца не зрушу». У нас дзве фігуры, дзве вяршыні, на якіх трымаецца духоўны небасхіл Беларусі, — гэта Быкаў і Караткевіч.

**— Караткевіча і Быкава Вы ставіце поруч?**

— Так. Па любові да Беларусі, па таленту яны роўныя, хоць пісьменнікі рознахарактарныя, разнажанравыя.

**— Я крыху ведала Караткевіча. Ён заўсёды жартаваў на людзях, дурэў, гарэзіў і ніколі не ўцягваўся ў сур'ёзную гаворку. Цяпер я разумею, што гэта была маска.**

— Так. Гэта была яго маска. Справа ў тым, што Уладзіміра Сямёнавіча цкавалі як «нацыяналіста». Ён увесь час быў пад «каўпаком». Давяраў і не давяраў блізкаму акружэнню. Пад выглядам сяброў, пад выглядам апанентаў, пад выглядам навуковых даследчыкаў ля яго круціліся майстры з вядомай службы. Памятаеце інсцэніраваную кражу ў ягонай кватэры? Штосьці з рэчаў падкінулі назад, штосьці забралі. Таму і напускаў на сябе Караткевіч такі бясхмарны выгляд, а быў ён хлопец шчыры і безабаронны. Мудрэц з наіўнымі вачыма і незамутнёнай душой. Як я аб ім пісаў некалі: «Дзіця з вачыма празарліўца». Нагадаю, што сёлета выходзяць з друку дадатковы том Збору твораў У.Караткевіча з неапублікаванымі дагэтуль творамі і кніга В.Быкава «Сцяна» з апавяданнямі пра Курапаты і Слуцкае паўстанне («Жоўты пясочак» і «На чорных лядах»), а таксама публіцыстычныя развагі франтавіка, якія адлюстроўваюць быкаўскі — самы ўзважаны і дакладны погляд на вайну, які ніколі не прымаўся пад увагу афіцыйнай ідэалогіяй.

**— Хацелася б даведацца пра Вашу пісьменніцкую кухню, пра творчую лабараторыю. Напрыклад, у якім рэжыме працуеце?**

— У любым.

**— Як гэта? Вы пішаце па натхненні ці па звычцы? Раніцай ці ўвечары? За любімым пісьмовым сталом ці на канапе?**

— Скажу так: пішу ў розны час і ў любым месцы — у метро, пад душам, голячыся. Толькі перакладаю, седзячы за сталом, бо патрэбны слоўнікі і іншыя кнігі. Адным словам, я пішу нахаду. Радок, рытм, нейкае слова прыходзяць імпульсіўна. Я не гарбею над вершамі за сталом, праганяю сотні разоў компас слова ў галаве.

**— А як пішацца гумар?**

— Таксама нахаду, экспромтам.

**— Што Вас сёння найбольш хвалюе?**

— Лёс нашай мовы, а значыць, і нашай дзяржавы — адно без аднаго яны існаваць не могуць. І яшчэ лёс маёй унучкі.

**— Гучыць парадаксальна.**

— Нічога падобнага. Пытанне стаіць так: «Што чакае маю малую ўнучку ў гэтым жахлівым свеце пад назвай Беларусь? Карацей кажучы, што я ёй пакідаю?»

**— Неўладкаванасць?**

— Менавіта так. Пакідаю яе ў хаце, дзе ні вокан, ні дзвярэй.

**— Сумна. І час развітвацца. Падаруйце напрыканцы гутаркі які колечы са сваіх апошніх вершаў.**

— І ў тон нашай гутаркі? Пагаджаюся.

### Я покуль тут...

*Я там жыву,*
*Дзе Радаўніца плача,*
*Дзе смех у стог хавае галаву,*
*Дзе на вірах часін усіх*
*Вушача*
*Трымаецца як можа наплыву.*
*Я там жыву...*

*Я там іду,*
*Дзе ходзіць родны голас,*
*Адшукваючы сынаву бяду,*
*Дзе, як смычок,*
*На снезе йграе полаз,*
*Лясун аб ветах чэша бараду.*
*Я там іду...*

*Я там спачну,*
*Дзе, бы ў мядзведжым вуху,*
*Зацішна й перуну і палыну,*
*Дзе ўжо не будзе болей*
*Цесна духу*
*Майму,*
*Абжыўшы свежую труну.*
*Я там спачну...*

*Я покуль тут*
*Нявогляддзю шчырую,*
*У цемрадзі й святла здымаю кут,*
*Стараюся не думаць пра сырую,*
*Што быццам здыме*
*Грузь зямных пакут.*
*Я покуль тут...*

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

# НОВЫЯ МАРКІ

**На здымках:** Новыя маркі да 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, Белінфарм.**
















На Менскім паштамце адбылося спецыяльнае штэмпеляванне чатырох новых паштовых марак. На іх — выявы кіраўнікоў вызвольнага паўстання 1794 года Тамаша Ваўжэцкага, Тадэвуша Касцюшкі, Якуба Ясінскага, а таксама аднаго з паўстанцкіх камандзіраў, славутага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. Гэтая падзея прывабіла шматлікіх філатэлістаў.

## ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

# Падары

*Сл. Генадзя ГАПАНОВІЧА.* *Муз. Міхаіла БРУШКОВА.*




Падары мне сад вішнёвы
Не на жарты, а знарок, —
Пацалунак свой агнёвы
І блакітны васілёк.

Падары вянок аблокаў,
Што нясуцца над табой.

Падары мне буслаў клёкат
І сцяжынку пад вярбой.

Падары мне шчасця песню,
Бліскавічкі — сінь вачэй,
Ранак ціхі, подых весні
І, што хочаш ты... яшчэ.

Ганарар — у фонд рэдакцыі.

## Пародыі

**Вінцук АСЬЦЮК**

# Незвычайныя перамены

*Мы пераходзім зноў на «вы»,*
*Інтымнасць лёгкую згубілі.*
*......................................*
*І, пэўна, чорт не разбярэ —*
*Жыццё якое пражываем.*
**Алесь ЖЫГУНОЎ.**

Учора мы былі на «ты».
Інтымнасць лёгкую насілі.
Я быў з табою не святы,
Мяне путаны ўсе любілі.

Ды сёння, чорт яго бяры,
Са мною раптам нешта стала:
Ці пакусалі камары,
Ці муха ў цэмры забрыкала?

Інтымнасці былой няма.
Інтымнасць, як і ты, цяжкая.
Цяпер ці лета, ці зіма
Ніхто навокал больш не знае.

Я пераходжу зноў на «вы»,
Інтымнасць лёгкую шукаю.
Як копы з маладой травы
Я шпарка вершыкі складаю.

# Пачутае ад аўцюкоўцаў

* * *

Выклікалі аўцюкоўца ў ваенкамат, хочуць узяць у армію, але не ведаюць, у якую часць прыпісаць.

— Што ўмееце рабіць?

— Быў гарманістам, а тады кінуў.

— У салдаты гатовы ісці?

— Гатовы! Вы мне толькі скажыце, што з сабою браць: ці гармонь, ці ружжо, ці снарады?

— А ў цябе што ёсць?

— Усё ёсць!!!

* * *

Прызвалі аўцюкоўца ў армію. Пастроіў камандзір навабранцаў на плацы, камандуе:

— Хто ўмее што-небудзь рабіць — крок наперад!

Усе ступілі ўперад.

Камандзір абходзіць строй:

— Што ты ўмееш?

— Я — электрык.

— Ты што?

— Трактарыст.

Дайшла чарга да аўцюкоўца.

— Што ўмееш рабіць?

— Бульбулятар.

— Што гэта? Раскажы.

— Я магу нават паказаць. Дайце тазік, цвік і малаток.

Далі аўцюкоўцу ўсё, што ён заказаў. Аўцюковец набіў дзірак у тазіку. Падышоў да крана, адкруціў, падставіў тазік. З струменя вады атрымаўся дожджык: буль, буль, буль...

— От вам і бульбулятар!

— Станавіся ў строй! Тры нарады без чаргі!

Праз нейкі час прыехаў у часць генерал-аўцюковец. Праверыў усё. Падводзіць вынікі:

— Усё добра, але чаму новенькі бульбулятар на сметніку валяецца?

* * *

Аўцюковец расказвае:

— Як вялі ў ваенкамат, дык выкруцілі руку. Сухарукі цяперака, але ордэн Айчыннай вайны далі. Далі б і астатнім да 50-годдзя перамогі, толькі яны ўсе ўжо ўмёрлі.

* * *

Аўцюковец-камандзір правярае ракетны полк. Загадвае:

— Трэба ракеты перафарбаваць!

Зацягнулі бочку з фарбай на стралу ракеты. Пафарбавалі аб'ект, а бочку зняць забыліся.

Аўцюковец-камандзір зноў інспектуе полк. Хваліць. Ды раптам бачыць наверсе ракеты бочку, пытаецца:

— А гэта што?

— Атражацель!

— Сам бачу, што атражацель, але чаму не пафарбаваны?!

* * *

І я чуў, нібы служыў аўцюковец у арміі. Далёка недзе. Вярнуўся дахаты. Яго распытваюць:

— Як там?

— А-а, дурдом.

— Як гэта?

— Заўтра пакажу.

Раніцай — трывожны звон на ўсю вёску. Падвесіў салдат рэйку і гасіць па ёй жалезным прутом.

Збегліся аўцюкоўцы да яго хаты. Думалі — пажар. Хто вядро прыхапіў, хто лапату, хто сякеру.

Былы салдат аб'яўляе:

— Мы з бацькам едзем па дровы. Астатнім — разысціся!..

* * *

А яшчэ адзін аўцюковец выбіўся ў аўтаінспектары. Стаіць на шашы, правярае машыны, сочыць за парадкам.

Прыпыняе замежную легкавушку з паветранымі тармазамі. Машына ля яго стала, клапаны адкрыліся, паветра выпускаецца, як бы машына з палёгкай уздыхае.

Аўцюковец запрасіў правы, доўга разглядваў, прыдрацца няма да чаго, дык ён і кажа:

— Каб болей не пшыкаў на дарозе.

Вярнуў правы. Другую машыну тармазнуў.

— А ў цябе чаму не пшыкае?

— Машына іншая.

— Правы!

Шафёр бачыць: нейкі дзіўны аўтаінспектар. Падаў яму не правы, а прафсаюзны білет. Аўцюковец гартаў, гартаў ды раптам кажа:

— Добра, дзірку прабіваць не буду, але маркі за год пазрываю.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп. Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 180

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6789 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 20.02.1995 г. у 15 гадзін.